# ПАГОНЯ

Чацвер
30 верасня 1999 г.
№ 57 (434)
Кошт 50.000 руб.


## Літургія па-беларуску

2 кастрычніка ў Барысаглебскай (Каложскай) царкве адбудзецца літургія на беларускай мове. Апасля плануецца сустрэча гарадзенскай моладзі з сябрамі хрысціянскай суполкі імя Канстанціна Астрожскага, што з Менску. Пачатак літургіі а 9-й гадзіне.

Ул. інф.

## Літоўска-беларускія перамовы ў Гродне

**28-29 верасня ў Гродне прайшло V пасяджэнне двухбаковай беларуска-літоўскай камісіі па гандлёва-эканамічнаму супрацоўніцтву.**

Літоўскую дэлегацыю ўзначаліў віцэ-міністр Міністэрства гаспадаркі Літоўскай Рэспублікі Антанас Бартуліс. Беларускі бок прадставіў намеснік міністра замежных справаў Валерый Садоха.

Сярод разгледжаных былі пытанні наконт прынцыпаў трансмежнага супрацоўніцтва, аб вызваленні перавозчыкаў краінаў ад транзітных дарожных збораў, аб лібералізацыі гандлю, аб супрацоўніцтве ў еўрарэгіёне «Нёман» і стварэнні яшчэ аднаго еўрарэгіёна «Азёрны край» на тэрыторыі Віцебшчыны і прымежавых літоўскіх раёнаў. Адным з найважнейшых пунктаў быў разгляд праблемы разлікаў за імпартуемую з Літвы электраэнергію. На сённяшні дзень беларуская запазычанасць Літве за паліва складае 66 мільёнаў даляраў.

Ул. інф.

## ГЭС на Нёмане

**Канцэрн «Белэнерга» аб'явіў тэндэр сярод праектных арганізацый Беларусі на падрыхтоўку тэхніка-эканамічнага абгрунтавання пабудовы Гродзенскай гідраэлектрастанцыі.**

Напачатку было запланавана ўзвесці на Нёмане каскад з шасці ГЭС, аднак пасля ўсебаковага аналізу экалагічных ўмоў, інтарэсаў вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі, мясцовых жыхароў і крыніц фінансавання, праектанты змянілі рашэнне. У выніку вырашана распачаць працы па ўзвядзенню Гродзенскай і Нёманскай гідраэлектрастанцый. Гродзенская ГЭС будзе пабудавана на Нёмане ў 8—10 кіламетрах вышэй ад абласнога цэнтра. Вышыня плаціны, якая адначасова стане мастом, дасягне дзевяці метраў; зона затаплення тэрыторыі складзе ад 1,3 да 3 кв. кіламетраў. Папярэдні кошт будаўніцтва складае 20—25 мільёнаў даляраў ЗША.

## Дыялог народаў

**28 верасня ў Гродне пачалося першае пасяджэнне «круглага стала» паводле тэмы «Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X—XX стагоддзі». Ён арганізаваны Заходнебеларускім гуманітарным цэнтрам даследванняў Усходняй Еўропы, Беларускім гістарычным таварыствам (г.Беласток, Польшча) і Гродзенскім дзяржуніверсітэтам імя Янкі Купалы.**

Як паведаміў член аргкамітэта, дырэктар Заходнебеларускага гуманітарнага цэнтра даследванняў Усходняй Еўропы, доктар гістарычных навук, прафесар Гродзенскага дзяржуніверсітэта Дзмітрый Караў, у «круглым стале», пасяджэнні якога працягнуцца да 30 верасня, возьмуць удзел каля 100 чалавек; на згаданую тэму падрыхтавана 80 дакладаў. Сярод удзельнікаў мерапрыемства ён адзначыў вядомых польскіх навукоўцаў — Іераніма Граля, Ежы Крупе, Юзэфа Марошака, Адама Даброньскага і іншых, а таксама з беларускага боку — Вячаслава Насевіча, Івана Саверчанку, Алеся Каханоўскага. Расію будзе прадстаўляць гісторык Юрый Эскін.

Антон Лабовіч




1 і 2 кастрычніка - воблачна, кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра ўначы +2...+7, удзень +12...+17.

# Зіма ў нас заўсёды надыходзіць знянацку!

**«Узімку гарачая вада будзе ўвесь час. Аднак, калі Расія закрые засаўкі ці зіма будзе надта халоднай, магчымыя скрайнія меры - падача гарачай вады па графіку», - адзначыў у сераду на прэс-канферэнцыі Леанід Журкевіч, дырэктар прадпрыемства «Гарадзенскія цеплавыя сеткі». Прэс-канферэнцыя, якая праводзілася гарвыканкамам з прычыны набліжэння зімовага сезону, павінна была адказаць на пытанні, ці падрыхтаваліся гарадзенскія ўлады да зімы.**




Акрамя Леаніда Журкевіча перад прысутнымі журналістамі выступілі намеснік старшыні гарвыканкама Юрый Масквічоў, галоўны інжынер ВА ЖКГ Сцяпан Сяргей, начальнік упраўлення гандлю ды грамадскага харчавання Уладзімір Стома.

Спецыфіка падрыхтоўчага працэсу, паводле словаў арганізатараў прэс-канферэнцыі, заключаецца ў тым, што ён пачаўся практычна адразу пасля мінулагодняй зімы. У сувязі з гэтым гарвыканкамам былі распрацаваны адмысловыя мерапрыемствы. І, як адзначыў Юрый Масквічоў, «нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, многае ўдалося зрабіць». Аднак праблемы ўсё роўна застаюцца. І гэта хваліце, бо, адпаведна словам спадара Масквічова, «зіма ў нас надыходзіць знянацку».

Па стану на 27 верасня, цалкам адрамантаваны 17 з 19 кацельняў. Хутка будзе скончаны рамонт кацельняў у Паўднёвым і на Фолюшы. Адрамантавана каля 100 тысяч квадратных метраў праезных частак дарог. Перадзімовы агляд прайшлі 97 са 140 тралейбусаў.

Не засталіся без увагі і жылыя будынкі. Былі праверанымі 14 тысяч квадратных метраў дахаў. Наогул, ужо 1708 з 1865 дамоў лічацца падрыхтаванымі да зімовага сезону. Астатнія, паводле словаў галоўнага інжынера ВА ЖКГ Сцяпана Сяргея, «абавязкова будуць здадзеныя да пачатку ацяпляльнага сезону».

Аднак з-за недахопу грошай марудна замяняюцца цеплавыя трубы. Сёлета было заменена толькі чатыры кіламетры трубаў, пры тым, што кожны год патрабуецца мяняць не менш як 7-8 кіламетраў.

Востра стаіць і праблема аплаты за спажываемую энергію. Сёння запазычанасць спажыўцоў толькі за ваду і каналізацыю складае 130 мільярдаў рублёў.

Найбольш хвалявала журналістаў пытанне, калі ў гарадзенскіх кватэрах будзе ўключана ацяпленне. У мінулым годзе ацяпляльны сезон у Гродне пачаўся адпаведна рашэнню гарвыканкама. Паводле гэтага рашэння, цяпло ў кватэры далі толькі пасля таго, як тэмпература на вуліцы пяць сутак запар трымалася на ўзроўні +8 градусаў і ніжэй. Леанід Журкевіч паведаміў, што ва ўрадзе Беларусі вядуцца размовы аб змене гэтага дыяпазону прыкладна да +5 градусаў. Магчыма, як лічыць дырэктар «Гарадзенскіх цеплавых сетак», гэтая пастанова будзе прынятая.

А пакуль, раіць Леанід Журкевіч, гарадзенцам трэба вучыцца эканоміць цяпло. Не перабіраць норму гарачай вады, абабіваць дзверы ды ўцяпляць вокны. І гэта зрабіць зусім не цяжка, калі ўявіць, што жыхары Гродна, адпаведна сцвярджэнню камунальнікаў, аплочваюць толькі тры працэнты ад рэальнага сабекошту цяпла. Падчас свайго выступу спадар Журкевіч зазначыў, што на 27 верасня 80 працэнтаў усіх гарадскіх аб'ектаў падрыхтаваныя да зімы. Гэты працэнт не выглядае такім высокім. Асабліва, калі прыняць пад увагу тое, што ўсе аб'екты павінны былі быць здадзеныя яшчэ да першага верасня. Найбольш цяжкае становішча ў ваенным ведамстве, дзе ў належным стане толькі пятая частка аб'ектаў, у галіне аховы здароўя гэты працэнт адзін з самых высокіх - 75.

Запасы паліва ў горадзе, паводле словаў Леаніда Журкевіча, складаюць 80 працэнтаў ад неабходнага. Але на гэты ж перыяд мінулага года ўсе ёмістасці былі запоўненыя цалкам. «Мы можам прыняць тысячу тонаў мазуту, але няма грошай», - паведаміў напрыканцы спадар Журкевіч.

Закранулася на прэс-канферэнцыі і пытанне забеспячэння насельніцтва ўзімку садавінай і гароднінай. Як запэўнілі прысутных начальнік упраўлення гандлю і грамадскага харчавання Уладзімір Стома, гарадзенцы без гэтых прадуктаў зімою не застануцца. Ужо нарыхтавана 708 з 1130 тонаў бульбы, што складае 60 працэнтаў ад неабходнага. Але асноўныя пастаўкі, згодна з планам, прыпадаюць на канец верасня і кастрычнік.

Павал Мажэйка

# Стой! Хто ідзе?

**З першага кастрычніка ў Гарадзенскім універсітэце ўводзіцца прапускны рэжым. Што гэта азначае? З такім пытаннем у пошуках інфармацыі наш пазаштатны карэспандэнт Юрый Кузняцоў звярнуўся да намесніка дэкана фізіка-матэматычнага факультэта Казіміра Зноскі.**

- Сутнасць прапускнога рэжыму палягае на тым, што людзі, якія не маюць пры сабе студэнцкага білета (для студэнтаў), альбо пропуска (для навуковых супрацоўнікаў) ці іншых дакументаў, якія пацвердзяць прыналежнасць чалавека да універсітэта, не будуць прапускацца праз яго парог. Увесці такі рэжым планавалася з 23 верасня, але дату затым змянілі на першае кастрычніка.

- Хто аддаў такі загад?

- Гэтая пастанова вынікае з Указа прэзідэнта, з пастановаў адпаведнага міністэрства і загада рэктара універсітэта сп. С.Маскевіча.

- Як будзе ажыццяўляцца кантроль дакументаў?

- На ўваходзе ў галоўны корпус будуць весці дзяжурства па адным студэнце з факультэтаў, якія тут месцяцца. Ім будзе дапамагаць міліцыянт. У іншых карпусах дакументы будуць правяраць вахцёры.

- Загад пра ўвядзенне прапускнога рэжыму распаўсюджваецца і на іншыя ВНУ горада?

- Так. Гэтая пастанова распаўсюджваецца на ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны.

# Бамжы ў выканкаме

Напалоханыя да чорцікаў чыноўнікі загадалі гарадзенскім міліцыянтам праверыць склепы і гарышчы ў дамах абласнога цэнтра. Міліцыянты пачалі імпэтна выконваць загад. Дайшла чарга і да будынка Ленінскай адміністрацыі горада Гродна. На гарышчы гэтага будынка міліцыя знайшла сляды пражывання некалькіх бамжоў. Маёмасць і лахі бамжоў былі тэрмінова прыбраныя. Аднак на гэтым цуды ў будынку адміністрацыі не скончыліся. На мінулым тыдні нехта двойчы пранікаў у выканкам і скраў камп'ютары. А вось пра тэрарыстаў нічога не чуваць.

Сяргей Самасей

## П`ем мы гарэлку, п`ем мы вішнёўку...

**Нават пасля нядаўняга значнага павелічэння кошту на гарэлку попыт на гэты сапраўды народны напой не зменшыўся. Самага хадавога прадукту ў крамах па-ранейшаму няма, а калі і з'яўляецца - то «не больш за дзве бутэлькі ў адныя рукі».**

**У гандлёвым доме «Баторыя», напрыклад, апошні раз гарэлка была тры тыдні таму. Між тым раней норма яе продажу была каля 200 скрыняў штомесяц.**

**А што ж падчас гэтага гарэлачнага посту п'юць шаноўныя гарадзенцы? Вашай увазе прапануюцца некаторыя адказы на гэтае пытанне.**

***Уладзімір Дубко, дырэктар гарадзенскага лікёра-гарэлачнага завода:***

- Што п'ю? Гарбату п'ю, каву...

***Алесь Тустаў, студэнт ГрДзУ, гістфак:***

- Пры адсутнасці гарэлкі наліваем піўка, а калі гэтага не хапае, робім «буру ў пустыні». Як? Адмыслова для ПАГОНІ прапаную просты рэцэпт студэнцкага вынаходніцтва: набываеце 50 грамаў гарэлкі ў маленькім кілішку і вялікі куфаль піва. Гарэлка падпальваецца і разам з келішкам кідаецца ў піва і ўсё хуценька выпіваецца. Кілішак, зразумела, застаецца на дне куфля. Пасля падвойнай «буры ў пустыні» пачынаецца «ха-ха» - карацей, жарты, смех, весялосць. А што яшчэ студэнту патрэбна?

***Айцец Ільля, настаяцель царквы св. Марфы:***

- Скажыце лепей, калі ваша газета будзе, нарэшце, нармальныя артыкулы пісаць? Правярайце ўсе факты так, што ніхто з вамі і размаўляць не хоча. І я не хачу. Пройдзе час, з'явіцца гарэлка. А зараз хай бульбу капаюць, а не п'юць. Усё, амінь.

***Юрый Арцем'еў, генеральны дырэктар КПО ЖКГ:***

- Я ўвогуле не п'ю! І ніколі не піў. І ўсе мае супрацоўнікі і падначаленыя не п'юць. 4 850 чалавек - і ўсе «трезвенники». А днямі бачыў гарэлку, прадаюць - «Нёманскую». Давалі па дзве бутэлькі на чалавека. І ўвогуле, тэлефануйце ў гарвыканкам. Там павінны ведаць.

***Уладзімір Стома, кіраўнік гандлю (гарвыканкам):***

- Я з вамі па тэлефоне размаўляць не буду. Прыходзьце ў аддзел інфармацыі. Увогуле, у гарвыканкаме хутка будзе прэс-канферэнцыя. Праўда, вас туды не запросяць...

***Валянцін Гаворык, начальнік медвыцвярэзніка:***

- Сам я не п'ю, а што тычыцца наведвальнікаў маёй установы, то колькасць іх не зменшылася - п'юць віно, настойкі. Хачу нават сказаць, што павялічылася: звычайна нашай нормай з'яўляецца 10-12 чалавек у дзень, а ўчора да нас патрапіла ажно 25. Звязана гэта, магчыма, з тым, што днямі ў крамах «выкінулі» гарэлку, і людзі паспяшаліся «дагнацца». Вынік - перабольшванне нормы амаль у два разы.

Гутарыла Юлія Дарашкевіч

## Умелыя рукі - не дай сабе засохнуць!




1. Каструлька з халоднай вадой альбо ільдом.
2. Патэльня для сцёку спірту.
3. Каструлька з бражкай.
4. Патэльня для збору спірту.
5. Агонь.

# З`езд Партыі Беларускага Народнага Фронту

**26 верасьня ў Менску адбыўся IV чарговы зьезд Партыі Беларускага Народнага Фронту. У працы зьезду ўзялі ўдзел дэлегаты з усёй краіны, вылучаныя суполкамі і тэрытарыяльнымі арганізацыямі Партыі БНФ. Быў заслуханы даклад старшыні партыі сп. Зянона Пазьняка. Выступілі намесьнікі старшыні Партыі ды шэраг дэлегатаў зьезду. Зьезд праходзіў у канструктыўным рэчышчы, у атмасфэры ўзаемнай павагі і рэспэкту да розных думак і поглядаў.**

Зьезд даручыў намесьніку Старшыні Партыі сп. Ю.Беленькаму атрымаць пасьведчаньне аб перарэгістрацыі Партыі БНФ у Міністэрстве Юстыцыі РБ. Адбыліся дыскусіі ды галасаваньне, былі прынятыя дапаўненьні ў Статут партыі і прынята Праграма партыі. Была таксама ўдакладнена назва Партыі. Прынята назва партыі: «Кансэрватыўна-хрысьціянская партыя - Беларускі Народны Фронт», скарочаныя назвы: «Кансэрватыўна-хрысьціянская Партыя БНФ» і «Партыя БНФ». Зьмененай назвай Партыя будзе карыстацца пасьля рэгістрацыі зьменаў і дапаўненьняў у Статут партыі ў Міністэрстве Юстыцыі РБ. Старшынём партыі быў абраны сп. Зянон Пазьняк, намесьнікамі старшыні сп. Юры Беленькі, Мікола Анцыповіч, Сяргей Папкоў, Уладзімер Старчанка.

Быў абраны Сойм Партыі БНФ у складзе 45 сяброў, большасьць зь якіх прадстаўляюць тэрытарыяльныя арганізацыі Партыі з рэгіёнаў Беларусі. Дэлегаты зьезду аднагалосна прынялі заяву «Аб агрэсіі супраць народу Ічкерыі», у якой заклікалі міжнародную супольнасьць выступіць у абарону міру і мірных людзей Ічкерыі, з асуджэньнем масавых расава-этнічных чыстак у Расеі.

**Прэс-служба Партыі БНФ**
**29.09.99 года**

## Аб агрэсіі супраць народу Ічкерыі

IV Зьезд Партыі Беларускага Народнага Фронту выказвае пратэст і абурэньне з прычыны ваеннай агрэсіі Расеі супраць Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя. Недапушчальна, каб напрыканцы XX стагодзьдзя нашчадкі Савецкага Саюза адкрыта аб'яўлялі аб зьнішчэньні малалікага народа і пачыналі супроць яго вайну, бамбардаваньне яго вёсак і гарадоў, грамадзянскіх аб'ектаў і мірнага насельніцтва. Гэта гучыць дзіка, калі дэпутаты расейскага парляманту заклікаюць да ўжываньня тэрмаядзернай зброі супроць народу Ічкерыі.

Ніякія прапагандысцкія спасылкі на нібыта барацьбу з «тэрарызмам» ня могуць прымацца пад увагу, бо ня высьветлена, хто ўзарваў дамы ў Маскве ды іншых гарадох, і ніхто не прызнаўся ва ўчыненні выбухаў, а чачэнскія ваенныя камандзіры абвергі абвінавачваньні на свой адрас.

Мы заклікаем міжнародную супольнасьць выступіць у абарону міру і мірных людзей Ічкерыі.

Асабліва адзначаем, што пад выглядам барацьбы з тэрарызмам, расейскія ўлады распачалі масавыя расава-этнічныя чысткі ў Расеі. А гэта ёсьць злачынства супроць чалавецтва.

Мы заклікаем урады і парляманты развітых краінаў ужыць эканамічныя і палітычныя санкцыі супроць Расеі і паўплываць на спыненне агрэсіі ды вайны на Каўказе.

**26 верасьня 1999 года**
**г.Менск**

# Юрый Беленькі - «за»!

**Юрый Беленькі — намеснік старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі Беларускага народнага фронта, чый з'езд адбыўся 26 верасня, лічыць гэты форум поўнасцю легітымным, праведзеным з выкананнем усіх працэдур і неабходным кворумам (140 дэлегатаў з усіх абласцей Беларусі).**

На прайшоўшай 27 верасня ў штаб-кватэры БНФ прэс-канферэнцыі Ю.Беленькі заявіў: з'езд вырашыў даўно наспелую праблему стварэння ў Беларусі паўнацэннай палітычнай партыі «кансерватыўна-хрысціянскага накірунку», якая стаіць на пазіцыях безумоўнага суверэнітэту краіны. БНФ «Адраджэнне», адзначыў ён, з'яўляецца рухам і зарэгістраваны ў Мінюсце як грамадская арганізацыя. Партыя БНФ да апошняга з'езду, паводле слоў Ю.Беленькага, не з'яўлялася стала дзеючай палітычнай арганізацыяй і рэальна працавала толькі ў перыяды передвыбарных кампаній. Была таксама адзначана важнасць надаць партыі рэальнай дзеяздольнасці напярэдадні перамоў паміж уладамі і апазіцыяй, у якіх Ю.Беленькі ўдзельнічае ад БНФ.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі падрабязна паведамілі аб прайшоўшым з'ездзе, папраўках у статут, прыняцці праграмы арганізацыі, якой раней у партыі БНФ не было, і выбарах кіраўніцтва. Як вядома, кіраўніком партыі на безальтэрнатыўнай аснове абраны Зянон Пазьняк. Адразу ж пасля з'езду, паводле слоў Ю.Беленькага, адбылося пасяджэнне Сойма, на якім была сфарміравана ўправа арганізацыі; як адказным сакратаром абраны Анатоль Крыварот.

Намеснік старшыні партыі Сяргей Папкоў падкрэсліў: нягледзячы на істотныя змяненні ў статуце, прыняцце праграмы і ўдакладненне назвы, было бы няправільным лічыць, што створана новая арганізацыя. У сувязі з гэтым яе кіраўніцтва не будзе падаваць дакументы ў Міністэрства юстыцыі для перарэгістрацыі, а збіраецца ўнесці ўсе неабходныя змяненні і папраўкі ў рабочым парадку. Да зацвярджэння Мінюстам усіх змяненняў арганізацыя будзе карыстацца старой назвай —партыя БНФ. Як падкрэслівалася на прэс-канферэнцыі, партыя БНФ з'яўляецца складаючай часткай грамадскага руху Беларускі народны фронт «Адраджэнне», збіраецца ўдзельнічаць у яго працы і, у прыватнасці, у правядзенні з'езда, запланаванага на 30—31 кастрычніка.

На пытанне журналістаў, ці не прывядзе ўчарашні з'езд да расколу БНФ, Ю.Беленькі заявіў: «Мы выйшлі на новы якасны ўзровень у рэструктурызацыі нашай арганізацыі. Палітычная партыя павінна стаць асновай грамадскага руху. Хаця цяжка зараз прагназаваць, як у далейшым пойдзе працэс рэфармавання ў Беларускім народным фронце і на яго з'ездзе. Аднак канструктыўная атмасфера, у якой прайшоў 4-ы з'езд партыі БНФ, дае ўпэўненасць у тым, што рух не расколецца».

# Лявон Баршчэўскі - «супраць»!

**Намеснік старшыні Беларускага народнага фронта Лявон Баршчэўскі заявіў: «Так званы 4-ы з'езд БНФ не можа лічыцца з'ездам», паколькі праведзены без рашэння сойма.**

Л.Баршчэўскі нагадаў, што сойм прызначыў правядзенне 4-га з'езду партыі на 30-31 кастрычніка б.г. Што да прайшоўшага 26 верасня мерапрыемства, то, паводле сцвярджэння Л.Баршчэўскага, на ім не было кворума, а ў аднаосінах да законнасці абрання 30—40 дэлегатаў маюцца сур'ёзныя сумненні, паколькі імі ў апошні момант былі заменены тыя дэлегаты, якія, разумеючы яго незаконнасць, адмовіліся ехаць у Мінск. «У нас маюцца заявы ад кіраўнікоў Гродзенскай і Магілёўскай абласных структур аб тым, што дэлегацыі гэтых абласцей не будуць удзельнічаць у працы «з'езду», — сказаў Л.Баршчэўскі.

Ён заявіў, што 4-ы з'езд партыі БНФ адбудзецца ў прызначаны соймам тэрмін — 31 кастрычніка 1999 года. Пры гэтым Л.Баршчэўскі выказаў упэўненасць, што маючы адбыцца з'езд партыі і другая сесія з'езду руху БНФ «Адраджэнне» набяруць неабходны кворум. Пра гэта, адзначыў ён, дазваляе казаць сітуацыя ў арганізацыі, большая частка актывістаў якой «кіруецца статутам, а не адданасцю правадыру». «У адваротным выпадку гэта б нагадвала не дэмакратычную арганізацыю, а партыю Жырыноўскага», — заявіў Л.Баршчэўскі. Паводле яго слоў, на з'ездзе БНФ у склад кіраўніцтва руху і партыі будуць прапанаваныя прадстаўнікі абедзьвюх проціборствуючых фракцый, у тым ліку Зянон Пазьняк, і дэлегаты будуць вырашаць, каго абраць. Ён лічыць, што правядзенне «мерапрыемства, названага 4-м з'ездам партыі БНФ», насуперак меркаванню значнай часткі членаў Беларускага народнага фронта, «фактычна фіксуе раскол БНФ», якога можна было пазбегнуць. У выніку расколу, БНФ, на думку Л.Баршчэўскага, пакінуць, у асноўным, людзі старэйшага пакалення, чый светапогляд фарміраваўся ў гады таталітарызму і якія не здольныя ўспрыняць дэмакратычных прынцыпаў існавання арганізацыі.

Л.Баршчэўскі выказаў сумненне ў тым, што народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў даў згоду ўвайсці ў сойм Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ. Паводле яго слоў, ён размаўляў з пісьменнікам напярэдадні з'езду і той заявіў, што дае згоду на ўваходжанне ў кіраўніцтва БНФ толькі пры ўмове захавання цэласнасці арганізацыі і адначасовага правядзення з'ездаў руху і партыі БНФ. Лявон Баршчэўскі заявіў, што цвёрда настроены выконваць абавязкі старшыні БНФ і ў бліжэйшы час прадпрыме жорсткія захады па наладжванні працы апарату арганізацыі і функцыянавання ўправы БНФ.

**Генадзь Барбарыч**

# Рыгор Барадулін супраць расколу

**Як стала вядома ПАГОНІ, Рыгор Барадулін у сувязі з апошнімі падзеямі ў Народным Фронце распаўсюдзіў наступную заяву:**

«Я, Рыгор Барадулін, прызнаю Статут БНФ «Адраджэнне» і Статут Партыі БНФ без усялякіх зменаў і ў тым ліку ў назве Партыі. Гатовы працаваць у Фронце і яго органах, калі З'езд Партыі і руху пройдуць аднечасова і выберуць агульнае кіраўніцтва. Я быў, ёсць і буду супраць расколу Фронту ні пры якіх варыянтах. Толькі адзінства -наша сіла! Рыгор Барадулін, 28.09.99 года г.Менск»

**Ул. інф.**

# «Гэта справа рук беларускіх спецслужбаў...»

**«Гэта справа рук беларускіх спецслужбаў, якія спрабуюць схаваць сваё вар'яцтва», — так пракаменціраваў выконваючы абавязкі прэс-сакратара старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, карэспандэнт беларускай службы польскага радыё «Палонія» Андрусь Старавойтаў інфармацыю дзяржаўных беларускіх СМІ аб тым, што зніклы 16 верасня першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктар Ганчар аб'явіўся на тэрыторыі Літвы.**

25 верасня газета «Белорусская нива» апублікавала паведамленне свайго карэспандэнта Алега Сцепаненкі, паводле слоў якога, 19 верасня начальнік аддзела рэалізацыі газеты «Частный детектив» Анатоль Васільчанка, які знаходзіўся ў Вільнюсе «па асабістых справах», бачыў, як Віктар Ганчар прагульваецца па вуліцах горада разам з Сямёнам Шарэцкім. На пытанне А.Васільчанкі аб тым, як ён трапіў у літоўскую сталіцу, Ганчар быццам бы адказаў, што прыехаў на дызель-цягніку; пры гэтым С.Шарэцкі «стаяў побач і ўсміхаўся». 27 верасня гэтая інфармацыя была прадубліравана і пракаменціравана ў вячэрняй праграме Беларускага тэлебачання «Панарама».

С.Шарэцкі ў рэзкай форме адазваўся аб публікацыі ў «Белорусской ниве», назваўшы яе «гебельсаўскай прапагандай». Паводле сцвярджэння выконваючага абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета, члена дэпутацкай камісіі па расследаванні абставінаў знікнення В.Ганчара Генадзя Цярэні, «дай Бог, каб Ганчар быў жывы і здаровы, аднак гэтыя звесткі падобныя на «вутку». Апошнім часам з'яўляецца вельмі шмат такой інфармацыі. «Калі б Ганчар сапраўды знаходзіўся зараз у Вільнюсе, для ўлад больш мэтазгодна было б не распаўсюджваць інфармацыю да атрымання яе дакументальных доказаў і запрасіць у літоўскага ўраду пацвярджэнне факту знаходжання Ганчара на тэрыторыі краіны», — лічыць Г.Цярэня. Паводле яго слоў, у камісіі ёсць пэўныя напрацоўкі, аднак інфармацыя будзе абвешчана толькі пасля таго, як будуць атрыманыя пераканаўчыя доказы яе праўдзівасці.

«Паводле маіх звестак, супрацоўнікі праваахоўных органаў, якія вядуць аператыўна-вышуковую працу па справе Ганчара і Красоўскага, з'яўляюцца прафесіяналамі ў сваёй справе і яны ў стане дакапацца да ісціны, калі толькі ім не перашкодзяць», — сказаў Г.Цярэня.

# Ельцына просяць умяшацца

**Група расійскіх праваабаронцаў накіравала адкрыты зварот прэзідэнту Расіі Барысу Ельцыну ў сувязі з апошнімі палітычнымі падзеямі ў Беларусі і, у прыватнасці, са знікненнем першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктара Ганчара.**

«Вам, безумоўна, вядома, — пішуць праваабаронцы, — што ў саюзнай нам дзяржаве... даўно ўжо склалася нездавальняючае становішча з выкананнем грамадзянскіх правоў і элементарных норм дэмакратыі. Асабліва непрымальным яно стала з моманту гэтак званай перамогі прэзідэнта Лукашэнкі, шмат у чым забяспечанай падтрымкай Расіі, на канстытуцыйным рэферэндуме восенню 1996 г. І ўжо зусім жудасную тэндэнцыю набылі падзеі апошняга года, калі падчас барацьбы з апазіцыяй у Беларусі сталі адбывацца недаравальныя для ўлад рэчы...

**Дзмітрый Уласаў**

# Расейская «медыцына» супраць «легітымнай недастатковасці»

**Узгадваю апошнія інтэрв'ю былога грузінскага прэзідэнта Звіяда Гамсахурдзія. Ягоныя па-грузінску выразныя вочы былі поўныя немагчымага адчаю. Ён усё разумеў, першы прэзідэнт незалежнай Грузіі. Яго абраў народ. Але народ не мог дапамагчы яму ўтрымаць уладу. Звіяд бачыў няўмольны фініш свайго жыцця...**

Праз расейскія СМІ ў грамадзянскую думку Беларусі была ўкінута «інфармацыя для роздуму», зусім як у шпіёнскіх баявіках Юльяна Сямёнава. Нібыта віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Віктар Ганчар падрыхтаваў палітычнае абгрунтаванне звяржэння Аляксандра Лукашэнкі шляхам палацавага замаху з боку бліжэйшых паплечнікаў нашага кіраўніка. Ці сапраўды знікшы без вестак Ганчар напісаў нешта падобнае да мемарандуму пра палацавы замах, ці сапраўды небяспека замаху існуе, ці зробленыя нейкія захады дзеля ажыццяўлення замаху - пакуль таямніца ёсць. Але кожны можа ўзяць газету, прачытаць мемарандум, прыпісваемы Ганчару, і паразважаць наконт таго, ці збіраюцца атачэнцы А.Лукашэнкі «валіць» свайго боса, альбо наадварот.

У гэтым бачны надзвычай небяспечны сімптом грамадскай хваробы, якую можна назваць на модны сёння манер «легітымная недастатковасць». ПАГОНЯ неяк пісала, што заканчэнне афіцыйнай легітымнасці А.Лукашэнкі ў сувязі з заканчэннем тэрміну, на які ён быў абраны, будзе надзвычай спрыяльнай глебай для арганізацыі змоваў, інтрыгаў і замахаў. І вось першы з іх пачаў ажыццяўляцца (а колькі іх будзе...).

Прычым, людзі, «якія прафесійна займаюцца палітыкай, расцэньваюць гэты варыянт (палацавы замах) як найбольш верагодны. Гэта азначае, што прынада, закінутая пакуль невядомым Нехта, заглынута глыбока і надзейна. З усіх бакоў чуюцца меркаванні пра тое, што будзе скінуты «тормаз» у вядома чыёй асобе (пасля чаго беларускае грамадства паімчыць наперад), што такое развіццё падзей будзе самым спрыяльным для беларускага народа.

На самой справе гэта будзе адзін з самых чорных варыянтаў развіцця падзей.

Аляксандра Лукашэнку абраў народ. Спадар Аляксандр парушыў кантракт і працягнуў сваё кіраванне на два гады. Гэта кепска, але гэта не дае права любому першаму (багатаму альбо «здароваму») звяргаць Рыгоравіча. Яго павінен адвергнуць народ. Але ні ў якім разе не нейкія прыдворныя, якія насамрэч жадаюць толькі аднаго: захаваць свае прывілеі, пазбегнуць адказнасці за здзейсненыя пры камуністах, кебічыстах і лукашыстах злачынствы. Народу ўсё роўна, які дзеяч узурпаваў уладу. Старому ўзурпатару нават спадарчней, а новыя яшчэ галодныя і злыя...

Ні ў якім разе нельга апраўдваць парушэнні закону з боку сённяшняга боса. Але, заўважце, як загадзя рыхтуюць глебу для легітымізацыі будучыя «вызваленцы народа ад дыктатуры». Гэта не што іншае, як спроба паставіць заслон сапраўды дэмакратычнаму развіццю Беларусі. Прычым - і ў гэтым уся хітрасць - пад прыкрыццём усё таго ж клопату пра дэмакратыю.

З гэтага пункту гледжання найлепшае развіццё сітуацыі - гэта правядзенне прэзідэнцкіх выбараў у 2001 годзе. Беларускім патрыятычным сілам ні пры якіх умовах нельга аддаць уладу нават на кароткі адрэзак часу змоўшчыкам. Бо відавочна, чые інтарэсы гэтыя змоўшчыкі будуць бараніць - інтарэсы разбагацеўшай наменклатуры і расейскага алігархата. Падтрымка замаху палацавых інтрыганаў - пастка для беларускіх патрыётаў і лібералаў.

Дзеля таго, каб зламаць сцэнар кампрадорскай наменклатуры, можна пайсці нават на падтрымку А.Лукашэнкі. Пры пэўных умовах, хаця гаварыць пра гэта сёння заўчасна. Дзяліць уладу ў сваёй дзяржаве мы павінны самі.

**Сяргей Самасей**







# Мастацка-прыкладное асарцi

**У музеі сучаснага народнага і самадзейнага мастацтва ў цэнтры народнай творчасці ідзе выстава адразу двух народных майстроў. Паказаныя карціны Уладзіміра Лебядзевіча і саломапляценне, аплікацыя, вышыўка Святланы Паплаўскай.**

Мастак Уладзімір Лебядзевіч нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Бершты Шчучынскага раёна. Прайшоў шлях, як кажуць, ад простага шафёра да старшыні калгаса «Знамя труда». Цікавай асаблівасцю творчасці мастака з'яўляецца тое, што ніводнага пейзажа ён не намаляваў з натуры, а толькі дзякуючы зрокавай памяці. Спецыялісты адзначаюць наіўнасць і прастату апавядання творчага метаду спадара Лебядзевіча. Простыя, амаль нязмешаныя фарбы, празаічныя сюжэты сапраўды не абцяжарваюць ягоныя карціны нейкімі падводнымі плынямі метафар і значэнняў. Усё проста: вясковы двор, буслы, сажалка. Аднак усе карціны мастака пазнавальныя. Яркія колеры, «бярозкі-хвойкі», ідылія сялянскага быту ствараюць свой адметны свет мастака Уладзіміра Лебядзевіча. Напэўна, ён малюе яго такім, якім хацеў бы бачыць у рэчаіснасці: простым, сонечным, добрым.

Побач з жывапіснымі карцінамі мастака суседнічаюць саламяныя вырабы, аплікацыі і вышыўкі маладой мастачкі з Ліды Святланы Паплаўскай. Яна займаецца гэтым відам творчасці не надта даўно - тры гады. Аднак работы дзяўчыны нельга назваць вучнёўскімі. Плеценыя сумачкі, разеткі, вазы, птушкі ды конікі вельмі добрай выканаўчай якасці. З тонкім густам і фантазіяй выкананы арыгінальныя аплікацыйныя пано. Арыгінальным аўтарскім вынаходніцтвам з'яўляецца плецены саламяны калаўрот. Гэта першая выстава Святланы ў Гродне. Шкада толькі, што гэтыя працаёмкія, прыгожыя вырабы пастаяць у прыцемку выставачнай залы і паедуць дадому ў Ліду, так і не знайшоўшы сабе новых гаспадароў. Вырабы народнай творчасці ў нас пакуль што не стварылі канкурэнцыі на рынку прамысловым таварам народнага ўжытку. А між тым, саламяная вазачка побач з маніторам «Samsung» выглядала б вельмі стыльна.

# Выстава Рэрыха: інтэлектуальнае мастацтва

**У мінулую сераду ў Старым Замку гісторыка-археалагічнага музея адкрылася выстава факсімільных копіяў карцін Святаслава Рэрыха.**

Нягледзячы на тое, што афішы прэзентуюць гэтую выставу «упершыню ў Гродне», на самой справе яна адбываецца ўжо другі раз. Беларускае таварыства Рэрыхаў, якое і стала арганізатарам выставы, мае ў Гродне свой філіял. З 1933 года ў СССР было забаронена чытаць і публікаваць любыя творы сям'і Рэрыхаў. Аднак пасля адмены забароны ў 1987 годзе ў Расіі і Беларусі пачалася бурная дзейнасць па папулярызацыі філасофскай спадчыны Рэрыхаў. Публіка прагна накінулася на кнігі па рэрыхаўскай «агні-йозе». Новая філасофія абяцала новыя адкрыцці, новыя ідэалы. З цягам часу «рэлігійна-філасофская ліхаманка» сціхла. Цяпер народ больш цікавіць экзатычны жывапіс Рэрыхаў, а не эзатэрычныя вышукі.

У арганізацыі выставы актыўны ўдзел узялі гарадзенскае аддзяленне Беларускага фонда культуры. Старшыня аддзялення, прафесар Сяргей Габрусевіч на вернісажы заўважыў наконт вялікай колькасці публікі ў зале: «Ваша прысутнасць сведчыць пра тое, што ў Гродне ёсць людзі, якія цягнуцца да самай высокай інтэлектуальнай культуры. Бо творчасць Рэрыхаў - гэта сапраўды самыя прыгожыя інтэлектуальныя вяршыні культуры». Далей спадар Габрусевіч правёў цікавыя аналогіі паміж Рэрыхам і Багдановічам, адкрыўшы, што кожны еўрапейскі народ мае свой культурны клан. Для расіянаў такім кланам з'яўляюцца Рэрыхі, для беларусаў - сям'я Багдановічаў.

Вольга Ратнікава, сябра рэрыхаўскага таварыства, распавяла пра біяграфію Святаслава Рэрыха. Як высветлілася, ён нарадзіўся ў Расіі ў 1904 годзе, з 1920 года жыў у ЗША, з 1934 і да смерці жыў у Індыі. Філасофска-рэлігійны жывапіс не быў адзінай сферай ягонай дзейнасці. Ён займаўся народнай медыцынай, мінералогіяй, батанікай. Нягледзячы на духоўна-філасофскі накірунак жыцця і дзейнасці, Святаслаў Рэрых у 45 гадоў ажаніўся з індыйскай кіназоркай Дэвікай Рані. Сямейства Рэрыхаў мае дачыненні і да нашага горада. У 1903 годзе Мікалай Рэрых быў у Гродне і пісаў эцюды з Каложы.

Карціны Святаслава (спецыялісты залічаюць іх да «медытатыўнага жывапісу») суправаджаюцца аўтарскімі каментарамі. «Катчаджанга» -горны ланцуг - распісана, як «каралі з мігатлівых ружовых пярлін над туманнымі далінамі і халмамі». Трыпціх «Распятае чалавецтва» павінен раскрываць ідэю перманентнага пераадолення людзьмі агульнага граху праз пакуты. Багатая экспазіцыя гімалайскімі і бангалорскімі пейзажамі. Кожная карціна з'яўляецца своеасаблівым прапаведнікам высокамаральных ідэяў.

Факсімільныя рэпрадукцыі ствараюць уражанне сапраўднасці карцін: захаваная ідэнтычнасць аўтарскім колерам. Выстава будзе адкрытая на працягу месяца.

# Як праца ператварыла марыянетку ў чалавека

**У мінулы ўікэнд у гарадзенскім тэатры лялек адбылася прэм'ера новага сезону. Гэта казка для дзяцей «Прыгоды Пінокіо».**

Лялечныя дзіцячыя спектаклі пачынаюцца ў ГТЛ у 12 гадзін. Гэта самы зручны час: добра паспаўшы ў выхадны дзень і паснедаўшы, малеча якраз паспявае да пачатку. Усе два дні, што ішла казка, глядзельная зала была цалкам укамплектаваная. Як сцвярджаюць супрацоўнікі тэатра, усе прадстаўленні лялечнікаў вельмі папулярныя і амаль заўсёды збіраюць аншлаг. Гэтаму спрыяе і матэрыяльны фактар: 40 тысяч - проста сімвалічны кошт дзіцячага квітка.

У нядзелю перад пачаткам спектакля быў арганізаваны невялічкі эстрадны канцэрт з удзелам студыйцаў з Палаца дзіцяча-юнацкай творчасці. Дзеці, як самая непасрэдная публіка, з імпэтам падпявалі, а самыя азартныя і падтанцоўвалі.

Казка Карла Калодзі «Прыгоды Пінокіо, гісторыя адной марыянеткі» ў пастаноўцы Мікалая Андрэева доўжыцца паўтары гадзіны. Флярэнтыец Калодзі напісаў яе ў 1880 годзе паводле матываў народных казак і сцэнак. Традыцыйныя карнавальныя персанажы - Арлекін, Каламбіна, клоўны -дапоўніліся новым героем - Пінокіо. Расейскі пісьменнік Талстой перайменаваў Пінокіо ў Бураціна, а казку - у «Залаты ключык».

У версіі гарадзенскіх лялечнікаў Пінокіо, драўляная марыянетка, ператвараецца ў сапраўднага хлопчыка дзякуючы працавітасці і шчырасці.

«Прыгоды Пінокіо» вылучаюцца з шэрагу іншых пастановак. Малеча з захапленнем назірае за драўлянай лялькай, якая дзякуючы майстэрству лялькаводаў рухаецца і скача, як жывая. А цудоўнае ператварэнне марыянеткі ў чалавека, а маляўнічыя дэкарацыі, а касцюмы! Шмат музыкі, песень. Улюбёнец публікі Юрый Буракоў у ролі Карабаса-Барабаса, як заўжды, чаруе юных «фанаў» імправізацыямі ды смешным хрыпатым голасам. Астатнія ролі выконваюць артысты Юрый Мянько, Аляксандр Енджэеўскі, Іван Дабрук, Святлана Баброўская і Людміла Паўлоўская. Сцэнаграфія Алеся Сурава, музыка Сяргея Бельцюкова.

**Алена Сіневіч**

# Новае пра жанчын у № 3 Arche

**У толькі што выдадзеным нумары часопіса «Arche» адкрываюцца новыя старонкі жаночага жыцця. Як піша ў прамове да нумара намеснік галоўнага рэдактара гэтага выдання Аляксандра Андрыеўская, «Гэты выпуск - гэта толькі позірк кахання. Спадзяемся, што ў выбраных тварах жанчына больш ёсць жанчынай, чым хоча ці вымушаная ёю быць».**

Адкрывае нумар урывак з кнігі Кейта Мілета «Сэксуальная палітыка». Класіка фемінізму, у якой аўтар паказвае ідэалагічныя, біялагічныя, сацыяльныя, класавыя ды іншыя аспекты сучаснай сэксуальнай палітыкі. Раю пачытаць не толькі жанчынам-феміністкам, але і сучаснай моладзі, якая цікавіцца жыццём за мяжой.

Другі артыкул у гэтым выпуску - асветніцкі артыкул Юдаля Марголіна «Жанчына й сэкс: што, дзе й навошта...». Расповед ідзе пра цела жанчыны, сродкі кантрацэпцыі, пэтынг, коітус, цяжарнасць ды іншае. Гэтая частка якраз для тых, хто патрабуе сэксуальнай адукацыі ў яе нармалёвым выглядзе. Нумар таксама цікавы аповедам Адама Глёбуса пра ягоную жонку «Яна і я». Выключным артыкулам пра шлях жанчыны ў сучасным жыцці Беларусі з'яўляецца інтэрв'ю з дырэктаркай прадстаўніцтва амерыканскага фонду IREX-ProMedia ў Беларусі Таісай Бандарэнка. Пра Касю Камоцкую, вядомую беларускую рок-спявачку, яе шлях да рок-сцэны і аб яе сённяшнім жыцці чытач зможа даведацца ў артыкуле «Кася - зорка». «Крытыкай і банальнасцю жыцця Святланы Алексіевіч» можна назваць артыкул Аляксандры Андрыеўскай «Пра Святлану Алексіевіч».

Дакументальная старонка - «Жанчыны Беларусі «эпохі калектывізацыі» ў дакументах ЦК КП(б)Б раскрывае спецыфічныя старонкі жыцця савецкай даваеннай Беларусі...

Нумары часопіса «Arche» ў Гродне можна замовіць па тэлефоне 2-34-68 ці 72-11-83 (спытаць Андрэя) альбо падчас працы «Выставы беларускіх кніг і касетаў».

**Андрэй Мялешка**

# НАТО ў горадзе. На жаль, толькі на два тыдні



**Няхай не хвалююцца працаўнікі ваенна-палітычных альянсаў. Наша НАТО расшыфроўваецца як «Нацыянальны Акадэмічны тэатр оперы». Оперны тэатр пад кіраўніцтвам Сяргея Картэса другі тыдзень гастралюе ў Гродне.**

Апошні раз мы мелі магчымасць цешыцца высокім мастацтвам оперы дзевяць гадоў таму. Прыезд опернага тэатра стаў сапраўдным святам і для тэатралаў, і для слухачоў. На гала-канцэрце «Віват, опера!» Сяргей Картэс сказаў: «Мы вельмі любім прыязджаць у Гродна. Гэты горад - культурны, гістарычны і музычны цэнтр. Да вас прыехаў амаль увесь наш калектыў: аркестр з 53 чалавек, хор, дзіцячая студыя, грымёры, касцюмеры, работнікі сцэны. Усе настроеныя на тое, каб у Гродне было свята оперы». Дакладней - да нас прыехала 170 чалавек.

У гастрольным рэпертуары восем опер, з іх - дзве прэм'ерныя: «Лючыя дзі Ламермур» і «Набука». Сярод вядучых выканаўцаў - Наталля Руднева, Алег Мельнікаў, Уладзімір Пятроў, Марат Ягорчык. Дырыжоры аркестра - Міхаіл Сенкевіч і Вячаслаў Чарнуха.

Чароўнае мастацтва оперы сапраўды авалодала горадам. У палову сёмай вечара грамадскі транспарт напаўняецца прыгожа апранутымі людзьмі, што спяшаюцца на прадстаўленне. Ля тэатра кавалеры з хваляваннем чакаюць сваіх дам. Сямейныя пары спрачаюцца, хто забыўся дома бінокль. І хоць цяпер «ложи не блещут» дыяментамі, ларнеткамі і дэкальтэ, цудоўнае свята оперы ўсё роўна адбылося. Аншлагі і дэфіцыт білетаў на спектаклі нацыянальнага опернага сведчаць пра тое, што гарадзенцы з радасцю хадзілі б на оперу часцей. Але НАТО можа дазволіць сабе гастролі па адным абласным цэнтры максімум раз у год.

Мастацтва рухаецца ў народ у нас праз надзвычай нізкі кошт квітка 250 тысяч. Дзякуючы гэтаму, опера стала даступнай «дэлегацыям» са школаў і ВНУ, якія былі ў глядзельнай зале на кожным прадстаўленні. Паводле словаў прадстаўнікоў адміністрацыі тэатра, гастролі абыходзяцца ў два мільярды рублёў. Каб акупіць паездку, білеты павінны каштаваць мільён-паўтара рублёў. Аднак тады опера стане «мастацтвам для багатых», што непажадана. Таму для заробку нацыянальны оперны працуе за мяжой і радзей бывае ў Беларусі.

**Алена Сіневіч**

**На здымку: Сцэна дуэлі з оперы «Яўген Анегін» Ленскі - Марат Грыгорчык, Анегін - Уладзімір Пятроў**

# «Зорная Ростань» у Гродне

**У гарадзенцаў, якія валодаюць вакальнымі дадзенымі, зноў з'явілася магчымасць прыняць удзел у тэлевізійным конкурсе маладых выканаўцаў «Зорная Ростань».**

У кастрычніку ў Гродне адбудзецца папярэдняе праслухоўванне. Будучыя Хулія Іглэсіяс ды Мансэрат Кабальe могуць прайсці яго ў памяшканні вучылішча мастацтваў 11 кастрычніка (для тых, хто з Гарадзеншчыны) і 12 кастрычніка (для гарадзенцаў). Адбіраць самых здольных будуць кампазітар Алег Елісеенкаў, вядомая вядучая Алена Спірыдовіч ды іншыя.

За дадатковай інфармацыяй можна звяртацца да творчай групы «Зорнай Ростані» па тэлефоне ў Менску 263-56-66.

**Ул. інф.**

# Залаты Скіф скарыўся перад гарадзенкамі

**Гарадзенскія спявачкі Таццяна Глазунова ды Галіна Шышкова вярнуліся з перамогай з міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў папулярнай песні «Залаты Скіф». Конкурс праходзіў у сярэдзіне верасня ў Данецку, што на Украіне. Гарадзенскія дзяўчаты атрымалі першую і другую прэміі, а Галіна Шышкова да таго ж была адзначана адмысловым прызам расейскай нацыянальнай прэміі «Авацыя».**

Сёлета ў конкурсе бралі ўдзел восем маладых выканаўцаў з Украіны і па тры з Беларусі ды Расіі. У склад журы ўвайшлі мэтры расейскага шоу-бізнесу Ігар Крутой ды Іосіф Кабзон, а таксама беларускі кампазітар Алег Елісеенкаў і спявак Валерый Дайнека.

Поспех гарадзенскіх дзяўчат не быў выпадковасцю. Яшчэ раней іх талент заўважыў і запрасіў у свой калектыў кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхаіл Фінберг.

**Юрка Александровіч**

# Аншлаг на семінары

**24-26 верасня ў Гродне адбыўся семінар пад агульнай умоўнай тэмай «Дэмакратычныя выбары: мацаванне беларускай дзяржаўнасці, эканамічныя рэформы, станаўленне грамадзянскай супольнасці». Яго праводзіў грамадскі навукова-аналітычны Цэнтр «Беларуская перспектыва» (кіраўнік праекту - Валянціна Трыгубовіч).**

Арганізацыю трохдзённага навучальна-адукацыйнага курса на месцы ажыццяўляла Гарадзенская філія «Фонду імя Льва Сапегі». З тэматычнымі выкладамі да гарадзенцаў прыехалі вядомыя спецыялісты-даследнікі ў розных галінах: Уладзімір Анцулевіч, Валерый Карбалевіч, Уладзімір Сосна, Канстанцін Скуратовіч, Віктар Чарноў, Ала Шведава.

Семінар выклікаў у слухачоў ажыўленую цікавасць, зала ледзь змагла змясціць усіх ахвотных наведнікаў.

**Хельмут Каменскі**

# Бізнесмен і магістр - дзве рэчы сумяшчальныя

**На мінулым тыдні Гарадзенскі універсітэт выйграў конкурс на адкрыццё бізнес-магістратуры ў Гродне. Гродна - першы горад у СНД, дзе можна будзе атрымаць практычную эканамічную адукацыю па амерыканскіх стандартах.**

Бізнес-магістратура - гэта сумесны праект ГрДзУ, Рыжскай бізнес-школы, Універсітэта Буфала штата Нью-Ёрк ды універсітэта Ніягара пры фінансавай падтрымцы праграмы фондам «Еўразія». Гарадзенскі універсітэт быў адным з васьмі прэтэндэнтаў на грант з Беларусі. Гарадзенцы перамаглі на другім этапе конкурса - «абыйшлі» БДУ і былы «наргас».

На прэс-канферэнцыі, што адбылася ў панядзелак, прысутнічалі замежныя ўдзельнікі праграмы: Джэніс Энн Нерсінгер, прадстаўніцы універсітэта Буфала; Ілзе Норвеле і Айгарс Лайзанс з Рыжскай бізнес-школы. Гэтымі днямі яны складаюць камісію па фармаванню выкладніцка-прафесарскага складу гарадзенскай бізнес-магістратуры. Уладзімір Лі, арганізатар праекта з беларускага боку, заявіў: «У Гродне можна атрымаць нацыянальную ступень магістра. Наша праграма дапаможа атрымаць міжнародную ступень магістра дзелавога адміністравання. Думаю, што мы ў нейкай ступені дапаможам краіне вырашыць праблему ўцечкі мазгоў без прыцягнення грошай з бюджэту. Мы самі зарабляем грошы і навучым рабіць гэта іншых».

Падрыхтоўка кадраў для работы ў бізнес-магістратуры будзе праходзіць пад кіраўніцтвам спецыялістаў з Рыгі, дзе ідэнтычная бізнес-школа працуе ўжо каля дзесяці гадоў. Падрыхтоўчы этап пачнецца ўвосень 2000 года. Наогул, навучанне ў новай установе разлічана на эканамістаў-практыкаў з універсітэцкай адукацыяй і досведам, «дрэнным ці добрым», у бізнесе. Такім чынам, бізнес-магістратура заменіць завочную эканамічную адукацыю, але на больш высокім узроўні. Вучоба мае быць даволі канцэнтраванай і спецыфічнай. Вучэбныя планы і праграмы выкладання бізнес-дысцыплінаў - толькі на ангельскай мове, каб мець магчымасць выкарыстоўваць найноўшыя матэрыялы без перакладу. Асноўны курс будзе складацца з 16 дысцыплінаў, сярод якіх упраўленне фінансамі, маркетынг, стратэгічны мэнэджмент, псіхалогія кіравання ды іншыя. Для заканчэння курсу бізнес-магістратуры, які аптымальна разлічаны на адзін год, выпускніку неабходна напісаць прыкладную дысертацыю - стратэгічнае даследаванне рынку.

У выніку павінен атрымацца кіраўнік эканомікі паводле паўночна-амерыканскага стандарту. Мэта-максімум бізнес-магістратуры - «даць бізнесу Беларусі мэнэджэраў заходняга ўзору, здольных выкарыстоўваць заходнія метады мэнэджменту ва ўмовах мясцовай эканомікі ды на міжнароднай арэне».

Такія бліскучыя перспектывы маладых беларускіх мазгоў ад бізнесу могуць патрапіць пад сумнеў у сувязі са стагнацыяй і прастрацыяй нашай эканомікі. На гэта спадар Лайзанс адказаў наступным чынам: «Тое, што цяпер так кепска, не значыць, што будзе яшчэ горш. Магістратура - гэта новае мысленне, якое дапаможа знайсці свой шлях. Ніхто, акрамя саміх беларусаў, не зменіць сітуацыю. Таму гэты праект - досыць своечасовы крок».

Асноўны курс бізнес-магістратуры пачне работу праз год. Навучанне, разлічанае на самастойных бізнесменаў, будзе платным.

**Алена Сіневіч**

# Курсы валют

**На 29 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.**

Даляр ЗША — 290.000 беларускіх рублёў. Еўра — 304.050,50. Нямецкая марка — 155.458,55. Расійскі рубель — 11.500. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра ЗША ўзрос на 1.000 рублёў.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 29 верасня даляр ЗША куплялі па 510.000—520.000 і прадавалі па 530.000—535.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс узрос у сярэднім на 5.000 рублёў.

***На мінулым тыдні (20—26 верасня) курс даляра ЗША да беларускага рубля ўзрос на большасці сегментаў валютнага рынку краіны. Лідэрам росту стаў курс даляра ЗША да рубля на «чорным» рынку наяўнай валюты — 6,2 працэнта (з 480.000—485.000 да 500.000—515.000 рублёў пры куплі, з 490.000—495.000 да 525.000—530.000 рублёў пры продажу).***

***Такое прыкметнае павелічэнне каціровак адбылося следам за паведамленнем аб павышэнні з 1 кастрычніка памеру мінімальнай зарплаты. У абменных пунктах камерцыйных банкаў даляр ЗША падаражэў у сярэднім на 3 працэнты (з 315.000—320.000 да 325.000—330.000 рублёў пры куплі, з 340.000 да 350.000 рублёў пры продажу). На асноўнай гандлёвай сесіі Беларускай валютна-фондавай біржы даляр падаражэў на 1 працэнт (з 286.000 да 289.000 рублёў), расійскі рубель — на 1,5 працэнта (з 11.260 да 11.430 рублёў), нямецкая марка і еўра — на 2,1 працэнта (адпаведна са 151.750 да 154.960 і з 296.870 да 303.010 рублёў).***

***На дадатковай гандлёвай сесіі, дзе курсы ў 1,5 раза перавышаюць курсы валют на асноўных таргах, па выніках тыдня каціроўка даляра склала 433.500 рублёў, нямецкай маркі — 232.440, расійскага рубля — 17.140, еўра — 454.510. Курс даляра да безнаяўнага рубля на пазабіржавым рынку знізіўся за тыдзень на 3,1 працэнта (з 630.000—670.000 да 615.000—645.000 рублёў). З пачатку месяца пазабіржавы курс даляра павялічыўся на 11 працэнтаў, біржавы — на 3,2 працэнта, «чорны» наяўны — на 5,1 працэнта, банкаўскі наяўны — на 3 працэнты.***

***Афіцыйны курс даляра да расійскага рубля, які ўстанаўлівае Цэнтральны банк РФ, знізіўся за мінулы тыдзень на 0,5 працэнта (з 25,41 да 25,28 рубля), з пачатку месяца — узрос на 2,1 працэнта.***

**Дзмітрый Уласаў**

# Нулямі ў «мінімалцы» сям'ю не накорміш

**З заўтрашняга дня, згодна з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мінімальны заробак устанаўліваецца ў памеры 1 мільён 450 тысяч беларускіх рублёў, тарыфная стаўка першага разраду - тры мільёны беларускіх рублёў.**

Следам за павышэннем «мінімалкі», зразумела, узрастуць і пенсіі, і матэрыяльныя дапамогі, і заробкі..,і цэны на ўсе тавары і паслугі, і кошт замежных валют. Урэшце, рэальна атрыманы грамадзянамі заробак наблізіцца і канчаткова зраўнуецца з коштам мінімальнага спажывецкага кошыка, які і так разлічаны па нормах вайсковага становішча.

Адпаведна інфармацыі аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», у верасні бягучага года сярэдняя заробная плата ў рэспубліцы павінна была скласці 22 мільёны 600 тысяч беларускіх рублёў. Па «галінах» эканомікі сітуацыя бачылася наступным чынам:

- лясная гаспадарка - 20 мільёнаў 190 тысяч рублёў;
- у калгасах - 13 мільёнаў 100 тысяч рублёў;
- у саўгасах - 15 мільёнаў 30 тысяч рублёў;
- на аўтатранспарце - 24 мільёны 620 тысяч рублёў;
- на прадпрыемствах і ва ўстановах сувязі - 24 мільёны 830 тысяч рублёў;
- на будаўніцтве - 33 мільёны 100 тысяч рублёў;
- у жыллёва-камунальнай гаспадарцы - 22 мільёны рублёў;
- у прамысловасці - 27 мільёнаў 900 тысяч рублёў;




- на чыгуначным транспарце - 29 мільёнаў 360 тысяч рублёў і г.д.

На сённяшні дзень 22 мільёны 600 тысяч беларускіх рублёў (сярэднямесячны налічаны заробак па рэспубліцы) - гэта 44 даляры ЗША ці 83 нямецкія маркі. Такія грошы адпаведна ў ЗША і ў Германіі зарабляюць за 2-3 гадзіны працы... Па ўзроўню аплаты працы ў Еўропе Рэспубліка Беларусь усё ж не апошняя, а перадапошняя **(гл. табліцу)**.

**Табліца**

| Дзяржава | Сярэднямесячны заробак у DM |
|---|---|
| Аўстрыя | 2970 |
| Албанія | 80 |
| Андора | 1190 |
| Беларусь | 83 |
| Балгарыя | 206 |
| Венгрыя | 664 |
| Германія | 3034 |
| Латвія | 394 |
| Літва | 307 |
| Малдова | 99 |
| Нарвегія | 3108 |
| Польшча | 702 |
| РФ | 106 |
| Румынія | 142 |
| Славакія | 396 |
| Славенія | 2000 |
| Украіна | 149 |
| Фінляндыя | 2698 |
| Чэхія | 700 |
| Швецыя | 3094 |
| Эстонія | 602 |
| Югаславія | 239 |

Такім чынам, мы адсталі ад суседзяў:

- ад Літвы - прыблізна ў 4 разы;
- ад Латвіі - прыблізна ў 5 разоў;
- ад Польшчы - прыблізна ў 8 разоў;
- ад Расійскай Федэрацыі - на 25 працэнтаў;
- ад Украіны - на 79,5 працэнта...

Сёння, калі так званы сямейны бюджэт у Беларусі складае 50 мільёнаў беларускіх рублёў - гэта ўжо благанадзейная (у эканамічным сэнсе) сям'я. Аднак, калі гэтая сям'я складаецца з чатырох чалавек, то на харчаванне толькі пры мінімальных «запытах» трэба выкласці 38 мільёнаў рублёў, але ж яшчэ апроч харчавання пажадана б і апрануцца. Што ўжо і казаць пра шматдзетныя сем'і (дапамога дзяржавы - 1,5 мільёна рублёў на дзіця!!!)? Што казаць пра сем'і, дзе бацька «прыносіць» 20 мільёнаў, а маці - 10-13 мільёнаў рублёў.

Рэальныя «даходы» грамадзянаў рэспублікі ў форме заробнай платы ў эквіваленце маркі ФРГ ці даляра ЗША з 1995 года скараціліся ў 2,5 раза, а ў эквіваленце спажывецкіх коштаў - у 4,5 раза. Вось і аналізуйце пасля гэтых параўнанняў павелічэнне ўсё таго ж мінімальнага заробку амаль у 15 разоў!! Выдатна - грошай атрымліваеш даволі шмат; папераў, банкнотаў - мора.

Так, нулёў у «мінімалцы» хапае. Аднак імі, на жаль, сям'ю не пракорміш. Бясконцае павышэнне «мінімалкі», павелічэнне пенсій, матэрыяльных дапамогаў робіць беларусаў яшчэ больш беднымі. І калі кастрычнік адрэагуе інфляцыяй у працэнтаў 17-18, дык лістапад - у працэнтаў 25-30.

І апошняе. Калі мы ўжо закранулі тэму інфляцыі, то паведамім наступнае. Аналітычны цэнтр «Рынкавая эканоміка» прагназаваў, што ўзровень інфляцыі ў верасні перасягне мяркуемы дзяржаўны ўзровень у 3,5 раза і складзе як мінімум 17,5 працэнта. Але гэта былі разлікі толькі на 24 верасня. А сёння ўжо апошні дзень месяца, і вынікі перавысяць чакаемыя. Бо з 24 верасня кошты рушылі ў чарговы наступ.

**Кацярына Зволін**

# Пасля часу пік

Як і ўказвалася ў артыкуле Максіма Жмінды «Час пік: 20 верасня» ў ПАГОНІ N56 ад 23 верасня, беларускі рубель з чысла «Х», а гэта значыць з 20 верасня абясцэньваецца хуткімі тэмпамі. У панядзелак, 27 верасня, адзін даляр ЗША на наяўным рынку (скажам так - «ценявым») «пацягнуў» 540 000 беларускіх рублёў. Такім чынам, з 20 верасня даляр ЗША «пацяжэў» на 50 000 беларускіх рублёў.

Увечары, 27 верасня, у абласных цэнтрах рэспублікі назіралася наступная сітуацыя з наяўным курсам беларускага рубля ў дачыненні да амерыканскай грашовай нацыянальнай адзінкі **(гл. табліцу)**.

| Горад | набыццё | продаж |
|---|---|---|
| Брэст | 520 000-525 000 | 540 000-550 000 |
| Віцебск | 500 000-510 000 | 535 000-545 000 |
| Гомель | 510 000-520 000 | 540 000-550 000 |
| Гродна | 500 000-515 000 | 535 000-545 000 |
| Менск | 530 000-535 000 | 540 000-545 000 |
| Магілёў | 520 000-525 000 | 540 000-550 000 |

Як лічаць незалежныя спецыялісты, сітуацыя на валютным рынку стала досыць неакрэсленай, і таму ў далейшым магчымыя надзвычай неардынарныя з'явы і працэсы.

На безнаяўным рынку становішча таксама неспакойнае. Курс вырас у сярэднім на 3-5 працэнтаў.

**Сяргей Міронаў**

# Па досвед у Нямеччыну

**Беларуская гандлёва-прамысловая палата сумесна з нямецкім таварыствам імя Карла Дуйсберга праводзіць конкурс на удзел ў праграме паляпшэння кваліфікацыі для беларускіх спецыялістаў і кіраўнікоў у сферах эканомікі, камерцыі і тэхнікі.**

Праграма, якая фінансуецца Міністэрствам замежных спраў Германіі, прадугледжвае стажыроўку ў нямецкіх фірмах. Кандыдаты мусяць быць не старэй за 35 гадоў, мець стаж працы па спецыяльнасці не меньш за 2 гады, добра валодаць нямецкай мовай і камп'ютарнымі праграмамі Word і Excel.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне (017) 226-91-29.

**Алесь Абрамовіч**

# Да нас едзе МВФ!

**Напрыканцы кастрычніка Беларусь наведае місія Міжнароднага валютнага фонду (МВФ), каб ацаніць эканамічную сітуацыю ў краіне і перспектывы супрацоўніцтва паміж фондам і Беларуссю.**

Як паведамілі у офісе МВФ у Мінску, гэты візіт будзе вынікам сустрэч, якія дэлегацыя Беларусі на чале з віцэ-прэм'ерам Генадзем Навіцкім праводзіць зараз на Штогадовых сходах Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) і Сусветнага банку. Сходы афіцыйна распачаліся ў Вашынгтоне 28 верасня і працягнуцца да 30 верасня. Беларуская дэлегацыя сустрэлася ў ЗША з намеснікам дырэктара МВФ Шыгеміцу Сугісакі, дырэктарам ІІ Еўрапейскага дэпартамента Джонам Одлінгам-Смі і ягоным намеснікам Томасам Вульфам. Беларуская дэлегацыя ў Вашынгтоне ставіць пытанне аб крэдытаванні Беларусі Міжнародным валютным фондам па лініі «стэнд-бай» і па праграме надзвычайнага кампенсацыйнага фінансавання.

Апошняя просьба выклікана сёлетнім кепскім ураджаем ў Беларусі, што павышае патрэбы краіны ў імпарце збожжа. На 29 верасня запланавана сустрэча беларускай дэлегацыі з віцэ-прэзідэнтам Сусветнага банку Ёханэсам Лінам.

**Аляксей Знаткевіч**

# «Ценявы» урад працуе

**Інфармацыю кіраўніка рабочай групы па падрыхтоўцы Канцэпцыі развіцця Беларусі, кандыдата юрыдычных навук Сяргея Леўшунова заслухалі на сваім пасяджэнні 28 верасня члены Нацыянальнага выканаўчага камітэта (НВК) — «ценявога» урада.**

С.Леўшуноў распавёў пра зробленую апошнім часам працу, у прыватнасці, пра міжнародны семінар «Беларусь: магчымасці выбару», які адбыўся 8 верасня і ў якім, акрамя распрацоўшчыкаў Канцэпцыі, удзельнічалі вучоныя з Францыі і ЗША. Удзельнікі семінару выказалі сваё бачанне будучыні Беларусі.

**Уладзімір Глод**





ПАРАЛЕЛІ

# Нямецкі лакаматыў для аб'яднанай Еўропы

## Трэцяга кастрычніка Германія святкуе Дзень уз'яднання. У 1990 годзе ў гэты дзень ФРГ і ГДР аб'ядналіся ў адзіную дзяржаву

**У XX стагоддзі як Беларусь, так і Германія, зведалі падзел сваіх тэрыторыяў на Заходнюю і Усходнюю. Падзел, які нягледзячы на тое, што заняў зусім няшмат часу, усё ж зламаў шмат людскіх лёсаў і жыццяў. Беларусам гэты падзел даўся, безумоўна, значна цяжэй. Нам не далі стварыць сваёй незалежнай дзяржавы, у той жа час, як немцы займелі дзве. Мы штодзень, і на Захадзе, і на Усходзе змагаліся за правы беларусаў, за нашых геніяў, мову, зямлю, сімвалы. Немцы з зайздроснай педантычнасцю стварылі і развівалі сваё.**

**Беларусь як падзялілі на дзве часткі, так і «вызвалілі», - чужынцы, несучы нам не меншыя пакуты ды кроў. Немцы самі, хай сабе і праз 50 гадоў, разарвалі на шматкі абрыдлую ім Берлінскую сцяну.**

**Нам, безумоўна, ёсць чаму вучыцца ў гэтага народа. Толькі не ў Германіі Гітлера, як лічыць Аляксандр Лукашэнка, а ў сучаснай эканамічна ды ідэалагічна здаровай, дэмакратычнай Германіі.**

Сёння Нямеччына належыць да ліку не толькі эканамічна развітых і найбольш стабільных дэмакратыяў у свеце. Яна з'яўляецца адной з важнейшых краінаў планеты і ў палітычных адносінах. З'яўляючыся трывалым складнікам еўра-атлантычнай супольнасці ў галіне замежнай палітыкі, Германія ў той жа час застаецца надзейным партнёрам дзяржаваў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, што сталі на шлях рэформаў. Аднак перш, чым заняць гэтае месца ў свеце, ёй давялося прайсці доўгі і вельмі цяжкі шлях.

8 траўня 1945 года ў Еўропе капітуляцыяй германскага вермахту скончылася Другая сусветная вайна. Вайна, якая знішчыла дзесяткі мільёнаў чалавек і спустошыла многія еўрапейскія рэгіёны. Для Нямеччыны крах нацысцкага рэжыму азначаў адначасова і вызваленне ад больш чым 12-гадовай дыктатуры.

Пасля вайны Германіі не былі навязаныя якія-небудзь прыніжальныя ўмовы, што маглі справакаваць сустрэчную хвалю агрэсіўнага нацыяналізму. Наадварот, ёй дапамаглі стаць на ногі палітычна і эканамічна, выкараніць нацызм, стварыць дэмакратычныя структуры. Магчыма, гэта пазбавіла свет ад новых катастрофаў.

Германія, як вядома, была падзелена на чатыры акупацыйныя зоны. У амерыканскай, брытанскай і французскай зонах акупацыйныя ўлады пачалі ствараць дэмакратычныя партыі, будаваць дэмакратычную дзяржаўную сістэму, аднаўляць эканоміку. Савецкі Саюз у сваёй зоне будаваў эканамічны і грамадскі лад па савецкаму ўзору.

Мяжа паміж заходнімі ды савецкай зонай паступова ператварылася ў «жалезную заслону» паміж блокамі, у лінію фронту «халоднай вайны». Былі ўтвораныя дзве самастойныя дзяржавы - Федэратыўная Рэспубліка Германіі ды Германская Дэмакратычная Рэспубліка. На працягу наступных дзесяцігоддзяў кіраўніцтва гэтых краінаў усё больш і больш разводзіла іх у розныя бакі. ФРГ уступае ў NATO і ў Еўрапейскую эканамічную супольнасць (ЕЭС), ГДР - у Арганізацыю Варшаўскай дамовы і ў Савет эканамічнай узаемадапамогі. 13 жніўня 1961 года была ўзведзена Берлінская сцяна. Як адзначаў канцлер ФРГ 70-х Віллі Брандт, «раскол свету адбіўся ў камяні». Аднак спыніць аб'ектыўны працэс імкнення ўсходніх і заходніх немцаў да адзінства было немагчыма. Адбылася змена пакаленняў, і абедзве краіны выйшлі з ценю Другой сусветнай вайны і нацысцкага мінулага. Размовы пра еднасць, патрыятызм, пра германскую нацыю, ролю немцаў у Еўропе і свеце для многіх сталі незабароненымі.

Напрыканцы 80-х у тагачаснай ГДР людзі сталі гучна патрабаваць палітычных свабодаў сваёй краіне. Найбольш яскрава супярэчнасці паміж жыхарамі ГДР і кіраўніцтвам ва Усходнім Берліне праявіліся ў кастрычніку 1989 годзе, калі ўрад святкаваў 40-ю гадавіну ўтварэння ГДР, а ў той час у Лейпцыгу тысячы людзей пратэставалі супраць рэжыму...

9 лістапада 1989 года Берлінская сцяна была разбурана. Пытанне палітычнага аб'яднання Германіі было толькі справай часу...

12 верасня 1990 года ў маскоўскім «Прэзідэнт-гатэлі» міністры замежных справаў СССР, ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, ФРГ і ГДР у прысутнасці прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова падпісалі Дамову аб канчатковым урэгуляванні ў адносінах Германіі. Праз дваццаць дзён, 3 кастрычніка 1990 года, аб'яднанне Германіі стала рэальнасцю. У Берліне быў спушчаны сцяг ГДР. Германская Дэмакратычная Рэспубліка скончыла сваё існаванне.

Германскае пытанне, што амаль паўстагоддзя трымала ў напрузе ўвесь свет, сілкавала антаганізм дзвюх сістэмаў ды ваенна-палітычных арганізацыяў, адышло ў гісторыю.

Сучасная аб'яднаная Германія ўпэўнена вяртаецца да сваёй натуральнай ролі - ролі аднаго з лакаматываў Еўропы. Сучасныя немцы вяртаюцца да таго стану, пры якім яны не толькі не павінны адчуваць сваю перавагу над іншымі, але таксама не павінны адчуваць і сваё адставанне ад каго-кольвек.



**Герхард Шродэр - федэральны канцлер аб'яднанай Германіі**

Новы федэральны канцлер Герхард Шродэр у адным са сваіх апошніх выступаў адзначыў: «Нашае грамадства мае шанец на будучае толькі як супольнасць уласнікаў... Задача сённяшняй палітыкі ў тым, каб разам з грамадствам і ў ім самім вызначыць роўнасць шанцаў, якая робіць стаўку на развіцці гуманітарнага патэнцыялу, а не на наступнае пераразмеркаванне, на кваліфікацыю і адкрытасць, а не на ізаляцыю і выключэнне, на гатоўнасць працаваць, а не на сацыяльную падтрымку, на сацыяльную адказнасць, а не на кароткатэрміновыя інтарэсы акцыянераў...»

Уз'яднанне Нямеччыны немцы расцэньваюць як сваё найбуйнейшае дасягненне. І, безумоўна, маюць рацыю. Яны зрэалізавалі шанец, які дала ім гісторыя. Пазней былы канцлер Гельмут Коль назаве аб'яднанне краіны «падарункам гісторыі». Ён выдатна разумеў, што ў іншай гістарычнай сітуацыі «падарунка» магло і не быць.

**Павал Мажэйка**

Да 60-годдзя далучэння Заходняй Беларусі

# Чацвёртае кола спіралі

Сцеражыцеся ілжывых прарокаў, якія прыходзяць да вас у авечым адзенні, а знутры ёсць ваўкі драпежныя.
Матф. 7:15

**17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу і на працягу 10 дзён заняла тэрыторыю Заходняй Беларусі. У гісторыі Беларусі далучэнне ісконных земляў стала найважнейшай падзеяй. Аднак, у хуткім часе вайна з Нямеччынай адсунула на задні план злучэнне беларускага народа ў адзіную дзяржаву, і нават круглыя даты з гэтай нагоды не адзначаліся. І вось сёння беларуская ўлада святкуе шасцідзесятую гадавіну тых падзеяў. Давайце ўзгадаем восень 39-га і мы, тыя, хто прайшоў праз ліхія гады далёкіх і трывожных часоў.**

## Мы і ўлада

Дваццатае стагоддзе сталася трагічным для беларусаў, якія перажылі дзве сусветныя вайны і зведалі пугі і перніка шматлікіх захопнікаў. Усе прыхадні, як з захаду, так і з усходу, даказвалі, што вызваляюць беларусаў ад папярэдніх супастатаў і ствараць для іх найлепшую будучыню. Але час ішоў, а жыццё калі і мянялася, то амаль заўжды ў горшы бок, а шчаслівая будучыня ўсё не надыходзіла.

Нарадзіўся я ў першыя гады польскай акупацыі, паспытаў рэжымы пілсудчыны, гітлерызму і сталіншчыны, прайшоў праз хрушчоўскую адлігу, брэжнеўскі застой і гарбачоўскую перабудову, не паспеўшы ўдыхнуць свежага паветра беларускага адраджэння, акунуўся ў «рынкавы сацыялізм». На схіле гадоў я раздумваю, параўноўваю ўсе гэтыя рэжымы і - не знаходжу паміж імі істотнай розніцы. Розніцца яны хіба толькі афарбоўкай: белы, чырвоны, карычневы, чырвона-зялёны. Але сутнасць застаецца аднолькавай. Як быў беларус напачатку стагоддзя зацюканым і прыгнечаным, так і па гэты дзень застаецца такім. Як быў прышпілены да замежнага цягніка, так і працягвае калдыбаць за ім у пылу і выкідах, ды яшчэ з падзякамі за гэтую паскудную магчымасць існаваць.

Перабіраю ў памяці перажытае, знаходжу ў плотным змроку ўціску толькі асобныя моманты станоўчага стаўлення ўладаў да патрэбаў простых беларусаў. Па заканчэнні першай сусветнай вайны палякі аказалі дапамогу нашым бацькам, якія вярнуліся з бежанства, адбудаваць спаленыя вёскі і наладзіць жыццё ў мірным рэчышчы. Падобным чынам кіравалі бальшавікі пасля Другой сусветнай вайны. Але ў цэлым ні адна ўлада не стала для заходнебеларускага мужыка сваёй, роднай і паважанай, як пра гэта заўжды сцвярджалі афіцыйныя прапагандысты рэжымаў, якія змянялі сілай адно другога. Я кажу пра мужыка-селяніна, які складаў 80 працэнтаў эканомікі края. Ды й гараджане да ўсіх уладаў ставіліся насцярожана, а не лаяльна, і ўжо ніяк не прыязна. Не было за што паважаць акупантаў-заваёўнікаў, скуль бы яны не з'яўляліся. Адзінае, у брэжнеўскую эпоху людзі неяк прыцёрліся, прыстасаваліся да ўмоваў жыцця, змірыліся з адчужанасцю ўлады ад народа і з яе бяздзеяннем, сталі прасоўваць моладзь у структуры савецкай сістэмы, урастаць у яе. Але ніколі народ не атаясамляў сябе з уладай.

## Праца і быт

Я жыў на вёсцы і працаваў з бацькам на гаспадарцы; выдатна памятаю ўсе турботы і цяжкасці сялянскай працы і быту. Яны на працягу першай паловы гэтага стагоддзя амаль не змяняліся. Пры палякаx мы жылі амаль гэтаксама, як бацькі нашыя за царом. Працавалі на тых жа зямельных надзелах, вялі тую ж натуральную гаспадарку. З-за вузасці рынку мелі тыя ж цяжкасці са збытам сельгаспрадукцыі, што стрымлівала вытворчасць і рост узроўню жыцця насельніцтва.

Сяляне ў нашай мясцовасці (сёння Ваўкавыскі раён) складаліся на дзве трэціны з сярэднякоў, якія валодалі 5-6 гектарамі зямлі і мелі ў гаспадарцы каня, па дзве, у асноўным, каровы, пару свінняў, некалькі авечак, хатнюю птушку. Бяднейшыя сяляне валодалі 2-4 гектарамі зямлі, звычайна мелі карову, адну-дзве свінні, пару авечак і тую ж птушку. Коней трымалі далёка не ўсе, бо было гэта непрыбытковым. У нашай вёсцы з 35-ці двароў коней не мелі дзесяці сем гаспадарак, альбо кожная пятая.

Заможных, у савецкай тэрміналогіі - кулакоў - было няшмат. Сярод нашых аднавяскоўцаў толькі адзін гаспадар меў 20 гектараў зямлі, два кані, тры каровы, іншае быдла. У ягонай гаспадарцы быў механічны прывад (манеж) і малацілка. Часамі ён наймаў батрака. Але ягоная хата і гаспадарчыя пабудовы амаль нічым не адрозніваліся ад звычайных хат і двароў. Не было ў яго ніякай раскошнай абстаноўкі ў хаце. Адзінае - ён, бадай, першым купіў дочцы, нашай аднагодцы, веласіпед. Іншыя тады дазволіць сабе такога не маглі, бо кошт двухколавай машыны быў роўным кошту каровы ці 6-пудовага кабана.

Раллю засявалі пераважна жытам, аўсом і бульбай. Крыху вырошчвалі пшаніцу, ячмень, проса, грэчку, гарох, лён. У гародах - капусту, бручку, буракі, моркву, гуркі, фасолю. На рынак вывозілі зерне, бульбу, масла, смятану, яйкі. Увосень імкнуліся прадаць аднаго з кабаноў, другога білі на Раство, рэзалі авечак. Хлеб, муку, крупы, мяса, малако і масла, сыр і тварог сяляне рабілі самі і ад горада ў гэтым сэнсе, як сёння, не залежалі. Куплялі толькі соль, газу, запалкі, махорку, часам гарэлку. Куплялі таксама вупраж, просты сельгасінвентар, святочнае адзенне і абутак, якія служылі ад жаніцьбы да старасці. Рабочае адзенне і абутак, бялізну выраблялі самі з даматканага палатна. Шылі кажухі са скур баранаў, валялі лямцы, вязалі шкарпэткі і рукавіцы.

Працаваў селянін шмат, ад золку да золку. Карміў і паіў жывёлу, рамантаваў прылады працы, чыніў адзенне і абутак, перабіраў сабраны ўраджай. Увесну араў, угнаяў і сеяў, садзіў бульбу ды іншую гароднiну. Потым сенакос, жніво, уборка бульбы. І ўсё рукамі, касой, серпам і матычкай. Ніякай механізацыі не існавала. Толькі ўласныя мускулы і кемлівасць, сялянскія навыкі і здагадлівасць. Амаль кожны быў будаўніком і цесляром, у пэўнай ступені муляром, дахоўшчыкам, шаўцом, стаяром. А жанчыны ўвогуле ўмелі ўсё: пралі, ткалі, вымочвалі і адбельвалі лён, шылі і вязалі, пяклі караваі і булкі, назапашвалі на зіму прадукты, гадавалі дзяцей...

Добры ўраджай забяспечваў багаты стол і дабрабыт, а засухі і праліўныя дажджы - скудны харч і галечу. Дрэнныя гады найперш адбіваліся на маламаёмасных і мнагадзетных сем'ях, якім не хапала мясных прадуктаў, з-за чаго яны задавальняліся ў асноўным бульбай і малаком. І тым не менш, голаду ў нас не бывала.

Ці добра жыў заходнебеларускі селянін? Ва ўсялякім выпадку, не горш, чым польскі ці літоўскі. Але значна бядней за нямецкага селяніна-баўэра - і ў матэрыяльным, і ў духоўным сэнсе. А вось у параўнанні з савецкімі калгаснікамі, мы жылі багата. Паводле бальшавіцкай класавай тэорыі, мы амаль усе пагалоўна з'яўляліся кулакамі. Прыгонны калгаснік, які зарабляў 100 грамаў зерня на працадзень, жыў выключна тым, што вырошчваў на 0,30 га прысядзібнага надзелу. Наш жа самы бедны селянін, які працаваў на 2-3 гектарах зямлі, збіраў у 5-6 разоў больш прадукцыі, чым ягоны ўсходнебеларускі брат. У параўнанні з нашымі беднякамі савецкія калгаснікі былі жабракамі, яны часта галадалі і вымiралі цэлымі вёскамі і акругамі.

**Мікола Жвір**

**Працяг будзе**

## Панядзелак, 4

### НАШЕ КИНО

9.05 Марафон премьер на канале "Наше кино". Олег Янковский, Анна Самохина, Сергей Никоненко и Владимир Меньшов в авантюрной комедии Виталия Москаленко "Китайский сервиз". 1999 г.

10.40 КиНовости.

10.50 Тарас Денисенко, Иванка Ильенко и Богдан Ступка в кинофеерии Михаила Ильенко "Ожидая груз на рейде Фучжоу возле пагоды". 2 серии. Украина. 1993 г.

12.55 "Дело №..." Эвальд Хермакюла, Ролан Быков, Чезара Дафинеску и Олег Басилашвили в детективе Владимира Краснопольского и Валерия Ускова "Соучастие в убийстве". 1985 г.

14.30 Ирина Купченко и Светлана Смирнова в кинодраме Ильи Авербаха "Чужие письма". 1975 г.

16.00 Черно-белое золото. Сериал "Анискин и Фантомас". Режиссеры Михаил Жаров, Владимир Рапопорт. В ролях: Михаил Жаров, Татьяна Пельтцер, Лидия Смирнова, Роман Ткачук. 1-я серия. 1974 г.

17.05 Жизнь замечательных людей. Имре Шинкович в музыкально-биографическом фильме Мартона Келети "Ференц лист". СССР - Венгрия. 2 серии. 1970 г.

19.35 Любовь по-русски. Алла Мещерякова и Станислав Любшин в мелодраме Виталия Мельникова "Ксения, любимая жена Федора". 1974 г.

21.00 КиНовости.

21.10 Кинокалендарь. К юбилею Александра Михайлова. Александр Михайлов, Наталья Белохвостикова, Леонид Марков и Донатас Банионис в криминальной драме Вадима Дербенева "Змеелов". 1985 г.

### МИР КИНО

9.35 Антонио Бандерас и Франческа Нери в криминальной мелодраме Карлоса Сауры "Стреляй!" (Испания - Италия). Д-17.

11.20 Крупный план. Антонио Бандерас.

11.45 КиНовости.

11.55 Календарь "Мира кино". Чарлтон Хестон.

12.10 "МИР КИНОприключений". Каспер Ван Дин и Джейн Марч в приключенческом фильме Карла Шенкеля "Тарзан и затерянный город" (США - ФРГ). Д-13.

13.35 Роберто Бениньи, Николетта Браски и Массимо Джиротти в комедии "Секстеррорист" (Франция - Италия). Д-17.

15.25 Кэрри Гензел, Тане МакКлюр и Ник Уайлдер в криминальной драме Анри Шарра "Сердца в клетке" (США). Д-17.

17.00 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 1-я серия.

17.35 КиНовости.

17.45 Календарь "Мира кино". Чарлтон Хестон.

18.00 Чарлтон Хестон, Тим Мэтисон, Питер Бойл и Анабел Скофилд в фантастическом триллере "Солнечный кризис" (США). Д-13.

19.50 Клинт Иствуд, Кайл Иствуд и Вирна Блум в фильме "Лабух" (США). Д-13.

21.50 Кейт Вернон и Макс Гейл в боевике "Опасное прикосновение" (США). Д-17.

23.30 - 0.55 Тереза Рассел в драме Кена Рассела "Шлюха" (США). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 "Еще неделя позади..."
9.45 Аэробика
10.10 Урок волейбола
10.25 "Шахматное обозрение"
10.55 Американский футбол. События недели
11.25 "Щит и мяч". Передача о баскетболе
12.00 "Пресс-центр"
12.10 Аэробика
12.35 Триатлон. Кубок мира. 3-й этап. Передача из Австралии
13.30 "Power week - неделя НХЛ"
14.30 "Короли бильярда"
15.00 "Пресс-центр"
15.10 Урок волейбола
15.25 Теннис. Кубок "Большого шлема". Лучшие матчи
17.50 "Пресс-центр"
18.00 "Железный фактор". Тележурнал
18.30 "Фан-клуб американского футбола"
19.00 Биатлон. Летний чемпионат мира . Передача из Минска.
20.00 "Дистанция"
20.45 Программа передач на завтра
20.50 "По всем правилам". Спортивный тотализатор
21.00 "Большой ринг"
23.00 Новости
23.15 Железный фактор". Тележурнал

## Аўторак, 5

### НАШЕ КИНО

9.05 Кинокалендарь. Александр Михайлов. Александр Михайлов, Наталья Белохвостикова, Леонид Марков и Донатас Банионис в криминальной драме Вадима Дербенева "Змеелов". 1985 г.

10.35 КиНовости.

10.50 Любовь по-русски. Алла Мещерякова и Станислав Любшин в мелодраме Виталия Мельникова "Ксения, любимая жена Федора". 1974 г.

12.15 Жизнь замечательных людей. Имре Шинкович в музыкально-биографическом фильме Мартона Келети "Ференц лист". СССР - Венгрия. 2 серии. 1970 г.

14.45 Черно-белое золото. Сериал "Анискин и Фантомас". 1-я серия. 1974 г.

15.50 КиНовости.

16.00 Черно-белое золото. Сериал "Анискин и Фантомас". 2-я серия. 1974 г.

17.05 Звездный билет. Эльза Леждей в исторической драме Юрия Егорова "Море студеное". 1954 г.

18.35 С любимыми не расставайтесь. Владимир Высоцкий и Ефим Копелян в трагифарсе Геннадия Полоки "Интервенция". 1968 - 1987 г.

20.15 КиНовости.

20.25 Александр Романцов в кинодраме Валерия Огородникова "Бумажные глаза Пришвина". 2 серии. 1989 г.

### МИР КИНО

9.35 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 1-я серия.

10.05 Кейт Вернон и Макс Гейл в боевике "Опасное прикосновение" (США). Д-17.

11.45 КиНовости.

11.55 Кэрри Гензел, Тане МакКлюр и Ник Уайлдер в криминальной драме Анри Шарра "Сердца в клетке" (США). Д-17.

13.30 Чарлтон Хестон, Тим Мэтисон, Питер Бойл и Анабел Скофилд в фантастическом триллере "Солнечный кризис" (США).

15.20 Клинт Иствуд, Кайл Иствуд и Вирна Блум в фильме "Лабух" (США). Д-13.

17.25 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 2-я серия.

17.55 Аден Янг, Бет Чемпион и Клаудиа Карван в приключенческом фильме Пола Кокса "Изгнание" (Австралия). Д-13.

19.35 КиНовости.

19.45 Марчелло Мастроянни, Клаудиа Мори и Адриано Челентано в комедии Флавио Могерини "Благородный венецианец" (Италия). Д-12. 1-я и 2-я серии.

21.35 Херб Митчелл и Энтони Леонарди в боевике Рона Уолша "Жестокие меры" (США). Д-17.

23.15 КиНовости.

23.25 - 0.50 Розалинд Аллен и Эми Доуленц в фильме ужасов Тони Рэндела "Клещи" (США). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 Американский футбол. Матч чемпионата NFL. "Майами Долфинс"- "Баффало Биллс". Передача из США
12.00 "Пресс-центр"
12.10 Аэробика
12.35 "Дистанция"
13.20 Железный фактор". Тележурнал
13.50 "Фан-клуб американского футбола"
14.20 "Удивительные игры народов мира"
15.00 "Пресс-центр"
15.10 Урок шахмат
15.25 Теннис. Кубок "Большого шлема". Лучшие матчи
17.50 "Пресс-центр"
18.00 "Один день в школе Татьяны Тарасовой"
19.00 "Звездный вторник"
20.00 "Дистанция"
20.45 Программа передач на завтра
20.50 "По всем правилам". Спортивный тотализатор
21.00 Американский футбол. Матч чемпионата NFL. "Майами Долфинс"- "Баффало Биллс". Передача из США
23.15 Новости

## Серада, 6

### НАШЕ КИНО

9.05 С любимыми не расставайтесь. Владимир Высоцкий и Ефим Копелян в трагифарсе Геннадия Полоки "Интервенция". 1968 - 1987 г.

10.45 КиНовости.

10.55 Звездный билет. Эльза Леждей в исторической драме Юрия Егорова "Море студеное". 1954 г.

12.25 Александр Романцов в кинодраме Валерия Огородникова "Бумажные глаза Пришвина". 2 серии. 1989 г.

14.45 Сериал "Анискин и Фантомас". 2-я серия. 1974 г.

15.50 КиНовости.

16.00 Сериал "И снова Анискин". Режиссеры Михаил Жаров, Виталий Иванов. В ролях: Михаил Жаров, Татьяна Пельтцер, Лидия Смирнова, Никита Подгорный, Роман Ткачук. 1-я серия. 1978 г.

17.05 Рудольф Аллаберт в кинодраме Олава Неуланда "Гнездо на ветру". 1979 г.

18.40 Киносреда. "Верные друзья". Василий Меркурьев, Борис Чирков и Александр Борисов в комедии Михаила Калатозова "Верные друзья". 1954 г.

20.20 КиНовости.

20.30 Любовь Красавина и Николай Шатохин в мелодраме Виктора Аристова "Трудно первые сто лет". 2 серии. 1988 г.

### МИР КИНО

9.35 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 2-я серия.

10.10 Херб Митчелл и Энтони Леонарди в боевике Рона Уолша "Жестокие меры" (США). Д-17.

11.50 КиНовости.

12.00 Марчелло Мастроянни, Клаудиа Мори и Адриано Челентано в комедии Флавио Могерини "Благородный венецианец" (Италия). Д-12. 1-я и 2-я серии.

13.50 Аден Янг, Бет Чемпион и Клаудиа Карван в приключенческом фильме Пола Кокса "Изгнание" (Австралия). Д-13.

15.25 Лена Улин и Катарина Тальбах в драме Ингемо Энгстрема "Полет на север" (ФРГ - Финляндия). Д-17.

17.25 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 3-я серия.

17.55 Джон Литгоу, Мэдхен Эмик и Эрик Робертс в криминальном боевике Уильяма Каррена "Любовь, измена, воровство" (США). Д-17.

19.30 КиНовости.

19.40 Лесли Стивенс и Дэвид Век в триллере Ноэла Стэррета "Мебиус" (США). Д-13.

21.15 Бруно Лоуренс, Анна Джемисон и Кит Абердейн в драме Роджера Дональдсона "Дворец разрушений" (Новая Зеландия). Д-17.

23.05 КиНовости.

23.15 - 0.40 Клинт Говард в фильме ужасов Нормана Эпштейна "Мороженщик" (США). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 Урок тенниса
10.00 Летний чемпионат России по лыжным гонкам. Передача из г. Пскова
11.00 "Звездный вторник"
12.00 "Пресс-центр"
12.10 Аэробика
12.35 "Дистанция"
13.20 Биатлон. Летний чемпионат мира . Передача из Минска
14.20 "Ловись рыбка". Тележурнал
14.45 Урок тенниса
15.00 "Пресс-центр"
15.10 Теннис. Кубок "Большого шлема". Лучшие матчи
17.30 "Шахматное обозрение"
18.00 "Пресс-центр"
18.10 "Аквaспорт". Тележурнал
18.40 Триатлон. Кубок мира. 4-й этап Передача из Бельгии
19.40 "НХЛ-Плюс"
20.00 "Дистанция"
20.45 Программа передач на завтра
20.50 "По всем правилам". Спортивный тотализатор
21.00 Теннис. Кубок "Большого шлема". Женский финал
23.00 Новости
23.15 "НХЛ-Плюс"

## Чацвер, 7

### НАШЕ КИНО

9.05 Лекарство против стресса. Василий Меркурьев, Борис Чирков и Александр Борисов в комедии Михаила Калатозова "Верные друзья". 1954 г.

10.45 КиНовости.

10.55 Рудольф Аллаберт в кинодраме Олава Неуланда "Гнездо на ветру". 1979 г.

12.30 Любовь Красавина и Николай Шатохин в мелодраме Виктора Аристова "Трудно первые сто лет". 2 серии. 1988 г.

14.40 Сериал "И снова Анискин". 1-я серия. 1978 г.

15.50 КиНовости.

16.00 Сериал "И снова Анискин". 2-я серия. 1978 г.

17.05 Валентина Шендрикова, Ян Каныза и Борис Щербаков в киноповести Анатолия Вехотко и Наталии Трощенко "Трасса". СССР - Чехословакия. 1978 г.

18.35 Жизнь замечательных людей. Галина Беляева, Сергей Шакуров и Всеволод Ларионов в биографическом фильме Эмиля Лотяну "Анна Павлова". 2 серии. СССР - Великобритания - ГДР - Куба - Франция. 1983 - 1986 гг.

21.00 КиНовости.

21.10 Ремигиюс Сабулис и Елена Проклова в криминальной драме Игоря Вознесенского "Идеальное преступление". 1989 г.

### МИР КИНО

9.35 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 3-я серия.

10.05 Джон Литгоу, Мэдхен Эмик и Эрик Робертс в криминальном боевике Уильяма Каррена "Любовь, измена, воровство" (США). Д-17.

11.40 КиНовости.

11.50 Бруно Лоуренс, Анна Джемисон и Кит Абердейн в драме Роджера Дональдсона "Дворец разрушений" (Новая Зеландия). Д-17.

13.40 Лесли Стивенс и Дэвид Век в триллере Ноэла Стэррета "Мебиус" (США). Д-13.

15.15 Джейсон Коннери в исторической драме Джереми Фристона "Макбет" (Великобритания). Д-13.

17.25 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 4-я серия.

17.55 Тони Браво и Камар Рейс в боевике Эддисона Рэндалла "Воины из восточного Лос-Анджелеса" (США). Д-13.

19.25 КиНовости.

19.35 Джейн Сеймур, Дэвид Уорнер и Омар Шариф в драме Стива Феке "Ключи к свободе" (США). Д-17.

21.10 Мартин Кемп, Кейт Ходж и Роберт Миранда в триллере Родни МакДональда "Предел желаний" (США). Д-17.

22.45 КиНовости.

22.55 - 0.25 Пэтси Кенсит, Роберт Рейнолдс и Ребекка Ригг в психологическом детективе Клайва Флюри "Ограниченный взгляд" (Австралия). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 Урок кунг-фу
9.55 "Аквaспорт". Тележурнал
10.30 "НХЛ-Плюс"
11.00 Триатлон. Кубок мира. 4-й этап Передача из Бельгии
12.00 "Пресс-центр"
12.10 Аэробика
12.35 "Дистанция"
13.20 "Большой ринг"
15.20 "Пресс-центр"
15.30 Урок кунг-фу
15.45 Бадминтон. Командный чемпионат мира. Финал
18.20 "Пресс-центр"
18.30 "Мир скорости". Тележурнал
19.00 "Фан-клуб американского футбола"
19.30 "Кто они, чемпионы?". Тележурнал
20.00 "Дистанция"
20.45 Программа передач на завтра
20.50 "По всем правилам". Спортивный тотализатор
21.00 Теннис. Кубок "Большого шлема". Мужской финал. В перерыве (23.00) - Новости

## Пятніца, 8

### НАШЕ КИНО

9.05 Жизнь замечательных людей. Галина Беляева, Сергей Шакуров и Всеволод Ларионов в биографическом фильме Эмиля Лотяну "Анна Павлова". 2 серии. СССР - Великобритания - ГДР - Куба - Франция. 1983 - 1986 гг.

11.30 КиНовости.

11.40 Валентина Шендрикова, Ян Каныза и Борис Щербаков в киноповести Анатолия Вехотко и Наталии Трощенко "Трасса". СССР - Чехословакия. 1978 г.

13.10 Ремигиюс Сабулис и Елена Проклова в криминальной драме Игоря Вознесенского "Идеальное преступление". 1989 г.

14.40 Мультфильм "Лестница жизни". 1989 г.

14.45 Сериал "И снова Анискин". 2-я серия. 1978 г.

15.50 КиНовости.

16.00 Сериал "И снова Анискин". 3-я серия. 1978 г.

17.05 Жанна Прохоренко и Андрей Мартынов в мелодраме Николая Лырчикова "Мы жили по соседству". 1982 г.

18.20 "Кино. Между прошлым и будущим".

18.35 Черно-белое золото. Леонид Куравлев в киноповести Василия Шукшина "Живет такой парень". 1964 г.

20.10 КиНовости.

20.20 Лекарство против стресса. Софико Чиаурели, Леонид Куравлев, Александр Абдулов и Сергей Юрский в детективной комедии Аллы Суриковой "Ищите женщину". 2 серии. 1982 г.

### МИР КИНО

9.35 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 4-я серия.

10.05 Пэтси Кенсит, Роберт Рейнолдс и Ребекка Ригг в психологическом детективе Клайва Флюри "Ограниченный взгляд" (Австралия). Д-17.

11.40 КиНовости.

11.50 Календарь "Мира кино". Сигурни Уивер.

12.05 Тони Браво и Камар Лейс в боевике Эддисона Рэндалла "Воины из восточного Лос-Анджелеса" (США). Д-13.

13.35 Джейн Сеймур, Дэвид Уорнер и Омар Шариф в драме Стива Феке "Ключи к свободе" (США). Д-17.

15.10 Мартин Кемп, Кейт Ходж и Роберт Миранда в триллере Родни МакДональда "Предел желаний" (США). Д-17.

16.40 Алан Аркин, Розана Де Сото и Ден Хедайа в мелодраме "Голубой вечер" (США). Д-17.

17.15 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 5-я серия.

17.45 КиНовости.

17.55 Жан Марэ в остросюжетной мелодраме Андре Юнебеля "Парижские тайны" (Франция - Италия). Д-13.

19.40 Гэри Дэниелс, Малколм МакДауэлл и Костас Мандилор в фантастическом боевике Тони Рэндела "Кулак северной звезды" (США). Д-17.

21.10 Робин Уильямс, Гленн Клоуз, Джон Литгоу и Джессика Тэнди в комедии Джорджа Роя Хилла "Мир по Гарпу" (США). Д-17.

23.20 Календарь "Мира кино". Сигурни Уивер.

23.35 - 1.30 Сигурни Уивер, Кевин Клайн, Джоан Аллен и Кристина Риччи в драме Энга Ли "Ледяной ветер" (США). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Аэробика
9.40 "Мир скорости". Тележурнал
9.55 Бадминтон. Личный чемпионат мира. Личные финалы
12.00 "Пресс-центр"
12.10 Аэробика
12.35 "Дистация"
13.20 Урок волейбола
13.35 Бодибилдинг и фитнесс. Гран-При "Планета Фитнесс". Передача из киноконцертного зала "Россия". В перерыве (15.00) - Новости
17.25 "Тайский бокс"
18.20 "Пресс-центр"
18.30 "Щит и мяч". Передача о баскетболе
19.00 "Power Week- неделя НХЛ"
20.00 "Дистанция"
20.45 Программа передач на завтра
20.50 "По всем правилам". Спортивный тотализатор
21.00 Профессиональный бокс. О.Де Ла Хойа - Ф.Тринидат. Передача из США. В перерыве (23.00) - Новости

## Субота, 9

### НАШЕ КИНО

9.05 Жанна Прохоренко и Андрей Мартынов в мелодраме Николая Лырчикова "Мы жили по соседству". 1982 г.

10.20 "Кино. Между прошлым и будущим".

10.35 Черно-белое золото. Леонид Куравлев в киноповести Василия Шукшина "Живет такой парень". 1964 г.

12.10 Лекарство против стресса. Софико Чиаурели, Леонид Куравлев, Александр Абдулов и Сергей Юрский в детективной комедии Аллы Суриковой "Ищите женщину". 2 серии. 1982 г.

14.35 Вероника Изотова, Александр Блок и Анатолий Равикович в кинооперетте Олега Рябоконя "Прекрасная Елена". 1986 г.

16.00 Валерий Приемыхов, Андрей Зыков и Ольга Машная в кинодраме Динары Асановой "Пацаны". 1983 г.

17.30 Лекарство против стресса. Маргарита Терехова, Михаил Боярский, Елена Проклова, Армен Джигарханян и Николай Караченцов в музыкальной комедии Яна Фрида "Собака на сене". 2 серии. 1977 г.

19.40 К юбилею Бруно Фрейндлиха. Татьяна Пилецкая, Юлиан Панич, Георгий Юматов, Татьяна Конюхова и Бруно Фрейндлих в мелодраме Леонида Лукова "Разные судьбы". 1956 г.

21.20 Дмитрий Певцов в боевике Александра Муратова "...По прозвищу "Зверь".

### МИР КИНО

9.35 Гэри Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 5-я серия.

10.10 Робин Уильямс, Гленн Клоуз, Джон Литгоу и Джессика Тэнди в комедии Джорджа Роя Хилла "Мир по Гарпу" (США). Д-17.

12.20 Сигурни Уивер, Кевин Клайн, Джоан Аллен и Кристина Риччи в драме Энга Ли "Ледяной ветер" (США). Д-17.

14.15 Жан Марэ в остросюжетной мелодраме Андре Юнебеля "Парижские тайны" (Франция - Италия).

16.00 Гэри Дэниелс, Малколм МакДауэлл и Костас Мандилор в фантастическом боевике Тони Рэндела "Кулак северной звезды" (США). Д-17.

17.35 Гари Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериале Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 6-я серия.

18.05 На Диком Западе "Мира кино". Теренс Хилл и Роберт Вон в комедийном вестерне И.Б.Клечера "Ренегат" (Италия). С.

19.35 Сделано в Голливуде. 1964 г.

20.00 Мэтт Дэймон, Робин Уильямс, Бен Аффлек и Минни Драйвер в драме Гаса Ван Сента "Умница Уилл Хантинг" (США). Д-17.

22.05 Элисон Эллиот и Эллен Берстин в мелодраме Ли Дэвида Злотофа "Грильбар "Порох" (США). Д-13.

0.05 - 1.40 Роберт З'Дар, Ким Стетц и Шэннон Эллиот в детективе Пола Уинна "Опасная связь" (США). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.15 Урок шахмат
9.30 Вольная борьба. Чемпионат мира. Четвертьфиналы и полуфиналы в весовых категориях 54,63, 76,97 кг. Прямая трансляция из Турции
13.00 "Пресс-центр"
13.10 Аэробика
13.35 "Дистанция"
14.20 "Power Week- неделя НХЛ"
15.20 "Пресс-центр"
15.30 Урок шахмат
15.50 "Щит и мяч". Передача о баскетболе
16.20 Американский футбол. События недели
16.50 "Пресс-центр"
17.00 Вольная борьба. Чемпионат мира. Финалы в весовых категориях 54,63, 76,97 кг. Прямая трансляция из Турции
19.00 Хоккей. Чемпионат России. "Мечел" (Челябинск) - "Динамо" (Москва). Передача из Челябинска
21.00 "По всем правилам". Спортивный тотализатор
21.10 "Дистанция"
21.55 Программа передач на завтра
22.00 "Мир скорости". Тележурнал
22.30 "Спорт-коктейль"
23.00 Новости
23.15 "Тайский бокс"

## Нядзеля, 10

### НАШЕ КИНО

9.05 Валерий Приемыхов, Андрей Зыков и Ольга Машная в кинодраме Динары Асановой "Пацаны". 1983 г.

10.35 Лекарство против стресса. Маргарита Терехова, Михаил Боярский, Елена Проклова, Армен Джигарханян и Николай Караченцов в музыкальной комедии Яна Фрида "Собака на сене". 2 серии. 1977 г.

12.45 Кинокалендарь. Бруно Фрейндлих. Татьяна Пилецкая, Юлиан Панич, Георгий Юматов, Татьяна Конюхова и Брунов Фрейндлих в мелодраме Леонида Лукова "Разные судьбы". 1956 г.

14.25 Дмитрий Певцов в боевике Александра Муратова "...По прозвищу "Зверь". 1990 г.

15.50 Мультфильм "Лев и 9 гиен". 1988 г.

16.00 Людмила Гурченко и Николай Волков-мл. в комедийном киноальманахе Наума Бирмана "Шаг навстречу". 1975 г.

17.15 "Дело №..." Петр Вельяминов, Галина Польских и Алексей Жарков в детективе Вениамина Дормана "Ночное происшествие". 1980 г.

18.45 Марафон премьер на канале "Наше кино". Алеша Зотов, Валерий Еременко, Ирина Розанова и Сергей Колтаков в музыкальной комедии Владимира Грамматикова "Привет от Чарли-трубача". 1998 г.

20.00 Андрей Ташков, Елена Цыплакова и Елена Коренева в комедийной мелодраме Валерия Пендраковского "Кому я должен - всем прощаю". 1998 г.

21.25 Любовь по-русски. Наталья Андрейченко, Александр Абдулов и Николай Пастухов в криминальной драме Романа Балаяна "Леди Макбет Мценского уезда". СССР - Швейцария. 1989 г.

### МИР КИНО

9.35 Гари Бэйкуэл и Лора Фрэйзер в фантастическом сериал Деви Хэмфриса "Нигде и никогда" (Великобритания). Д-12. 6-я серия.

10.10 На Диком Западе "Мира кино". Теренс Хилл и Роберт Вон в комедийном вестерне И.Б.Клечера "Ренегат" (Италия). С.

11.40 Сделано в Голливуде. 1964 г.

12.05 Лоренцо Ламас в приключенческом фильме Джорджа Эршбамера "Последний раунд" (США). Д-17.

13.25 Мэтт Дэймон, Робин Уильямс, Бен Аффлек и Минни Драйвер в драме Гаса Ван Сента "Умница Уилл Хантинг" (США). Д-17.

15.30 Элисон Эллиот и Эллен Берстин в мелодраме Ли Дэвида Злотофа "Грильбар "Порох" (США). Д-13.

17.30 "МИР КИНОприключений". Шон Бин и Дэвид Тьюлис в приключенческом фильме Кэролайн Томпсон "Черный красавец" (США). С.

19.00 Джеймс Руссо и Синда Уильямс в боевике Мики Каурисмяки "Тревога"(Финляндия - США). Д-17.

20.25 Крупный план. Энди Гарсия.

20.45 Энди Гарсия, Алан Аркин и Рэйчел Тикотин в комедийной мелодраме Эндрю Дэвиса "Один из двух" (США). Д-13.

22.40 Майкл Мэдсен, Мэттью Модайн и Мэри-Луиза Паркер в боевике Тима Хантера "Правила игры" (США). Д-17.

0.20 Бо Хопкинс и Кори Хайм в фильме ужасов Ральфа Портилло "Озеро страха" (США). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"
9.10 "Ловись рыбка". Тележурнал
9.30 Вольная борьба. Чемпионат мира. Четвертьфиналы и полуфиналы в весовых категориях 58,69, 85,130 кг. Прямая трансляция из Турции
13.00 "Пресс-центр"
13.10 Аэробика
13.35 "Дистанция"
14.20 "Большой ринг"
16.20 "Шахматное обозрение"
16.50 "Пресс-центр"
17.00 Вольная борьба. Чемпионат мира. Финалы в весовых категориях 58, 69, 85,130 кг. Прямая трансляция из Турции
19.00 "Пресс-центр"
19.10 "НХЛ-Плюс"
19.30 "Еще неделя позади..."
20.00 Хоккей. Чемпионат НХЛ. "Нью-Йорк Айлендерс" - "Колорадо Эвеланш". Прямая трансляция из США. В перерыве (20.40)- Программа передач на завтра
22.30 "Кто они, чемпионы?". Тележурнал
23.00 Новости
23.15 "Аквaспорт". Тележурнал

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Да фінішу - чатыры крокі

**Усяго па чатыры сустрэчы засталося згуляць удзельнікам чэмпіянату краіны па футболе ў вышэйшай лізе. Абодвум клубам з Гарадзеншчыны на фінішы сезону даводзіцца вырашаць розныя задачы. У гэтым нумары ПАГОНІ мы зробім кароткі агляд двух апошніх тураў чэмпіянату і паспрабуем спрагназаваць турнірныя перспектывы «Нёмана» і «Ліды».**



**Сяргей Саладоўнікаў: падставаў для весялосці няма**

## Міру - не!

**22 верасня. «Нёман» - «Дынама» Брэст - 2:1**

Нягледзячы на тое, што суперніцтва гарадзенскай і берасцейскай камандаў заўсёды праходзіць у зацятай барацьбе, яшчэ аніводнага разу ў гісторыі суверэннага футболу матч паміж імі ў Гродне не заканчваўся ўнічыю. Вось і гэтым разам пад акампанемент даждджу супернікам не давялося разыйсціся «з мірам».

З першых хвілінаў сустрэча пайшла на сустрэчных курсах. Абедзве імкнуліся забіць хуткі гол. Мяч практычна не затрымліваўся ў цэнтры поля. На 17-й хвіліне Мазурчык атрымаў пас-«цукерку» ад Палякова і прабіў з дальняга левага кута штрафной пляцоўкі. Мяч патрапіў у папярэчыну і ад яе заскакаў па лініі брамы. Мазурчык ірвануўся на дабіванне, але быў збіты абаронцам гасцей. У выніку Юрыя, які атрымаў траўму, замянілі, а Нікулін з пенальці пакараў берасцейцаў за грубасць.

Ускрыленыя поспехам, гарадзенцы ўзмацнілі націск, але госці не збіраліся сядзець у абароне і самі шукалі шчасця ля чужой брамы. Калі б падначаленым Разіна ў гэты дзень болей шанцавала, яшчэ ў канцы першага тайма лік мог стаць роўным.

У другім тайме стала зразумела, што гол у браму «Нёмана» - справа часу. Так яно і здарылася. На 59-й хвіліне Разін-малодшы апынуўся па-за ўвагай гарадзенскіх абаронцаў, атрымаў пас у цэнтры штрафной і трапным ударам параўняў лік.

Лік па гульні стаў нічыйным, і ўсё давялося пачынаць спачатку. Дынамаўцы, адчуўшы, напэўна, што клубным аўтобусе хопіць месца і на тры ачкі, працягвалі наскокі на браму Рыбака, прымусіўшы таго панервавацца. Тым жа адказвалі і гаспадары, якія ўрэшце рэшт звялі на «не» ўсе намаганні Васілюка і кампаніі, дзякуючы трапнаму ўдару пад папярэчыну ў выкананні Барысейкі.

## Сярэдзіна - ды не залатая...

**26 верасня. «Белшына» - «Нёман» - 5:1**

Ужо да 25-й хвіліны гарадзенцы чатыры разы дазвалялі гаспадарам «прабіваць» Альберта Рыбака. Адзінай светлай плямай на фоне поўнай бездапаможнасці абарончых шэрагаў выглядаў майстэрскі ўдар са штрафнога Сяргея Нікуліна на 13-й хвіліне. Адзначым, што на рахунку расейскага легіянера чатыры галы ў чатырох апошніх матчах «Нёмана». Тры з іх былі забітыя з пенальці і адзін, бабруйскі, са штрафнога. Выглядае на тое, што ў Гродне знайшлася замена майстру «стандартаў» Алегу Сысоеву. Вось бы яшчэ парачку новых саладоўніка-вых ды карозаў...

У заключных турах гарадзенцаў чакаюць нялёгкія выпрабаванні. Воляй лёсу спустошанай траўмамі камандзе Сяргея Саладоўнікава давядзецца адбівацца ад атакаў прэтэндэнтаў на месцы на п'едэстале гонару - мазырскай «Славіі» (4 кастрычніка, дома), барысаўскага БАТЭ (13 кастрычніка, у гасцях), салігорскага «Шахцёра» (23 кастрычніка, дома) і традыцыйна няязручнага віцебскага «Лакаматыва-96» (30 кастрычніка, у гасцях).

Чакаць ад гэтых сустрэчаў істотнага дадатку да ачковага запасу «Нёмана» не выпадае. Хутчэй за ўсё, вышэй за 9-е месца ў турнірнай табліцы гарадзенцам не ўзняцца, але і ніжэй за 11-е не ўпасці.

## Да дна - адзін крок

**21 верасня. «Дынама» Мн - «Ліда» - 5:0**

**26 верасня. «Ліда» - «Тарпеда» Мн - 0:1**

Надзвычай песімістычна выглядаюць перспектывы яшчэ аднаго прадстаўніка Гарадзеншчыны ў вышэйшым свеце - «Ліды». Яшчэ чатыры туры таму лідскія футбалісты на тры ачкі апярэджвалі «Тарпеда-Кадзіна» і на чатыры «Свіслач-Дах». Зараз ад гэтай перавагі не засталося і следу. Ускосна «дапамаглі» супернікам «Ліды» і гульцы «Нёмана». Спачатку ў 23-м туры яны паклалі на лапаткі землякоў - 4:2, а затым у 24-м туры аддалі перамогу магілёўскім «тарпедаўцам» - 0:1. Апошнія ў сваю чаргу ў апошнім туры выратавалі гульню са сталічным «Дынама», якое за 20 хвілінаў да канца сустрэчы выйгравала ў гасцях 2:0.

Цяпер у «Ліды» і «Тарпеда-Кадзіна» па 16 ачкоў. На адно менш у асіповіцкай каманды. На пяць - у «Маладэчна». Менавіта сярод гэтай чацвёркі і выявяцца дзве каманды, якія пакінулі вышэйшую лігу. Вось як выглядае расклад гульняў гэтых клубаў у апошніх турах:

**«Ліда»** - «Маладэчна» (г), «Нафтан-Дэвон» (х), «Свіслач-Дах» (г), «Гомель» (х).

**«Тарпеда-Кадзіна»** - «Тарпеда» Мн (г), «Маладэчна» (х), «Нафтан-Дэвон» (г), «Свіслач-Дах» (х).

**«Свіслач-Дах»** - «Лакаматыў-96» (х), «Гомель» (г), «Ліда» (х), «Тарпеда-Кадзіна» (г).

**«Маладэчна»** - «Ліда» (х), «Тарпеда-Кадзіна» (г), «Дынама» Бр (х), «Белшына» (г).

Пры такім раскладзе шанцы застацца ў ліку мацнейшых маюць усе, нават «Маладэчна», якому давядзецца згуляць з двума са сваіх супернікаў. Бадай што найгоршая сітуацыя ў «Ліды». Ёй таксама двойчы давядзецца гуляць з камандамі з названай вышэй чацвёркі, але, у адрозненне ад «Маладэчна», абодва разы ў гасцях. А таму любая недарэчная страта ачкоў, як у сустрэчы са сталічным «Тарпеда», нічога добрага заўзятарам футболу з Ліды не абяцае.

**Андрэй Аляшкевіч, Вітаўт Руднік**

## Калейдаспорт

Баскетбалісты «Гродна-93» усё ж не здолелі прабіцца ў наступны этап розыгрышу Кубка Корача. У паўторным паядынку яны саступілі фінскаму «Лахці логістыкс» - 74:81, але па суме абедзвюх сустрэчаў узялі верх. Сапраўдным героем спаткання ў Лахці стаў Юрый Чарняк, закінуўшы вырашальны трохачковік на апошніх секундах. Вось хто выходзіў на фінскі паркет: Жармухамедаў (14 ачкоў), Пынцікаў (20), Васілеўка (3), Квашчук (17), Грыгор'еў (11); Чарняк (7), Коршук (2), Шарко, Качан. Далей «Гродна-93» трапіў у групу «J», дзе яго супернікамі стануць «Шаўляй» (Летува), «Эрыксан Бабры» (Бытам, Польшча), «Унікс» (Казань, Расія). Першы матч адбудзецца 6-га кастрычніка дома з летувісамі. А пакуль неўпрыкмет узяў старт 8-ы чэмпіянат Беларусі. У першым туры «дзевяноста трэція» без праблем «раскаталі» менскі РШВСМ-БДПА (Квашчук - 23, Грыгор'еў - 14, Пынцікаў - 11, Насенка - 10). У складзе гарадзенцаў дэбютаваў шматвопытны цэнтравы Пётр Крышчык.

***

Падзелам ачкоў завяршыліся рандэву хакейных «Нёмана» і «Паліміра» ў Наваполацку. У першай гульні мацнейшымі сталі навапалачане - 5:3 (шайбы ў гарадзенцаў закінулі Стэфановіч, Варывончык і Паліцынскі). На наступны дзень госці ўзялі рэванш з рэдкім лікам - 8:6 (Дзееў, Малашкевіч - па дзве шайбы, Мінін, Чурабаеў, Цецераў, Галавіноў). Пасля шасці праведзеных матчаў у чэмпіянаце УЕХЛ «Нёман» займае пакуль шостае месца. А ў першынстве Беларусі становішча цяпер наступнае: 1. «Цівалі» (6 гульняў) - 10 пунктаў; 2. «Нёман» (5) - 4, «Юнацтва» (3) - 2, «Палімір» (4) - 2. Бліжэйшы матч «Нёман» згуляе першага кастрычніка ў Менску з «Палімірам» (залік пойдзе ў чэмпіянат краіны).

**Падрыхтаваў Хельмут Каменскі**

**Па гарызанталі:** 7. Абавязацельства зрабіць што-небудзь. 8. «...- кветка (п'еса Івана Козела). 10. Расліна са ствалом і кронай. 11. Прыстасаванне насіць сена, салому. 12. Паўднёвая травяністая расліна. 14. Буйная аўстралійская птушка. 16. Тыбецкая сталіца. 17. Што нясе на сабе Хрыстос на Галгофу? 19. Беларускі паэт. 20. Абрубак. 24. Прыток Нёмана. 25. Што складае пераможаны? 26. Драўляны дахавы матэрыял. 30. Хто не дае карасю ў рацэ драмаць? 31. Знікненне гуку ў сярэдзіне слова. 32. Снарад бабслеіста. 33. Галава (разм.). 34. Прыбор, які аўтаматычна запісвае ваганні атмасфернага ціску.

**Па вертыкалі:** 1. Ахапак. 2. Хрысціянская малельня. 3. Чукоцкая сталіца. 4. Анекдатычная мэбля. 5. Агароджа. 6. Невялікі складны кішэнны нож. 9. Вантробы, кішкі (разм.). 13. Прыбудоўка да току, у якой сушаць снапы. 15. Рачная рыба. 17. Магазін, лаўка. 18. Луста хлеба. 21. Зменная частка слова. 22. Імгненне. 23. Вадкасць для паскарэння бегу. 27. Сорт слівы. 28. «Крылатая характарыстыка». 29. Волат з беларускіх казак. 32. Трава - вада = ?



### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў нумары 56 (433).

**Па гарызанталі:** 1. Паніч. 4. Ампер. 7. Урад. 8. Сорам. 10. Аплік. 12. Анатомія. 14. Дата. 16. Скат. 18. Абат. 20. Рэпа. 21. Рака. 23. Ліст. 26. Амундсен. 29. Золак. 30. Ітака. 31. Альт. 32. Намаз. 33. Ажына.

**Па вертыкалі:** 1. Посуд. 2. Нерат. 3. Чума. 4. Адам. 5. Паляк. 6. Рокат. 9. Анаграма. 11. Пісталет. 13. Трап. 15. Агра. 17. Авёс. 19. Бард. 21. Разін. 22. Калым. 24. Інары. 25. Трама. 27. Указ. 28. Сіта.




♈ **Баран (21.03-20.04).** Сонца ў знаку Шаляў прынясе новыя рашэнні старых праблемаў. У суботу лепей не рабіць закупаў.

♉ **Бык (21.04-20.05).** За выключэннем суботы, паспяховы тыдзень. Падрыхтуйцеся да сур'ёзнай размовы з партнёрам.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** На Вас пільна глядзяць Амур і Феміда. Не губляйце галаву!

♋ **Рак (22.06-22.07).** Тыдзень пройдзе пад знакам прыняцця рашэнняў з нагоды капіталаўкладанняў. Паклапаціцеся пра зімовую вопратку.

♌ **Леў (23.07-23.08).** У службовую камандзіроўку захапіце цёплы джэмпер - аднаго гарачага сэрца бывае недастаткова.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Вас чакае напружаны тыдзень, бо ўвесь сабраны ўраджай трэба змясціць у склеп.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Вас чакаюць выдаткі, звязаныя з новым ацяпляльным сезонам. Але Меркурый пасадзейнічае прытоку даходаў у сямейны бюджэт.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Надвор'е дазволіць удала адпачыць. З'явіцца добрая ідэя на наступны месяц.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Поспехі на службе не паслабяць захаплення фліртам. Але пазбягайце падвойнай гульні.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Сцэны рэўнасці чакаюць у суботу. Аднак не панікуйце!

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Пахвала шэфа ў пачатку тыдня зробіць Вас лагоднымі да ўсяго свету.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Верасень закончыце моцным акордам. Вас чакаюць поспехі на працы.

ТЭСТ

# Кахаеш ці кахае?

**Пра сябе, канешне, амаль кожны дакладна ведае сам (кахае ён ці не), а вось як да Вас ставяцца тыя, хто Вам зусім не абыякавы, падкажа гэты тэст. На кожнае з 14-і прапанаваных сцвярджэнняў падайце толькі адзін з наступных адказаў: безумоўна, гэта так - 4 балы; верагодна, гэта так - 3 балы; наўрад ці гэта так - 2 балы; гэта зусім не так - 1 бал.**

**1.** Я адчуваю, што магу даверыць каханаму(-ай) абсалютна ўсё.

**2.** Я ўпэўнена(-ы), што ён (яна) ставіцца да мяне някепска.

**3.** Я магу сказаць, што каханы(-ая) належыць толькі мне.

**4.** Ён адзін з самых абаяльных мужчын (яна адна з самых абаяльных жанчын), якіх я ведаю.

**5.** Для яго (яе) я гатова(-ы) абсалютна на ўсё.

**6.** Мне б хацелася быць падобнай(-ым) да яго (яе).

**7.** Калі мне дрэнна, то ёсць жаданне падзяліцца толькі з ім (ёю).

**8.** Я мяркую, што мы з ім (ёю) унутрана падобныя адзін да аднаго.

**9.** Я адчуваю сябе ў адказе за тое, каб каханаму(-ай) было добра.



**10.** У большасці выпадках ён (яна) падабаецца людзям пры першым жа знаёмстве.

**11.** Мне прыемна адчуваць, што каханы(-ая) давярае мне болей як іншым.

**12.** Ён (яна) досыць разумны чалавек.

**13.** Мне было б вельмі цяжка, калі б давялося жыць без каханага(-ай).

**14.** Калі мы разам, у нас заўсёды падобны настрой.

**Падвядзем вынікі**

Падлічыце суму балаў, што Вы набралі. Максімальная колькасць - 56, мінімальная - 14 балаў.

Пры нізкай ацэнцы - **ад 14 да 28 балаў** - няма што і казаць пра станоўчыя пачуцці.

У дыяпазоне **ад 43 да 53 балаў** пануе сапраўднае каханне і сімпатыя.

Калі Вы патрапілі ў «залатую сярэдзіну» - набралі **ад 29 да 42 балаў** - то, ведаеце... Мажліва, гэта доказ таго, што шчасце не толькі ў каханні...

**Падрыхтавала** *Lana*

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні.
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 3 909 Наклад 8 570
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 29.09.1999 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: *Таццяна Лучыц*
Камп'ютарная вёрстка: *Аляксей Салей*